# Поўнасьцю выкарыстаць ільнацерабільныя машыны

У 1932 г. на сацыялістычных ільняных палёх будуць працаваць больш 25 тыс. ільнаўборачных машын тыпа „Камсамолка“, вытворчасьці нашага Любярэцкага завода.

Перад пускам у ход ільнацерабілкі, у адпаведнасьці з становішчам травастою ільну, утвараецца і ўстаноўка машыны.

Калі лён нізкі, па свайму росту, дык патрэбна машыну апусьціць ніжэй, пад'ёмным вагаром, але так, каб рама машыны не захоплівала зямлі і, апошняя не пападала ў церабільны апарат.

Шырыню захопа машыны таксама патрэбна ўстанаўліваць, выходзячы з высаты травастою ільну.

Калі лён нізкарослы, або палеглы, дык нармальная шырыня захопа зьмяншаецца праз прыбліжэньне знадворнага дзяліцеля бліжэй да рамы машыны, а пры нармальнай высаце лёну, у 80 **см** гэта адлеглась наска знадворнага дзяліцеля ўстанаўліваецца ад рамы на 65 **см**, так каб рабочы захоп машыны атрымаўся ў 60 **см**.

Пры церабленьні лёну машынай, па вызначаным вытворчым вучасткам, усё-ж патрэбна сачыць за ходам машыны, рэгуліраваць яе' на высату цераблення, гэтак і рабочы захоп, выходзячы з становішча травастою культуры.

Высату машыны патрэбна ўстанаўліваць так, каб менш захопліваць сьмятнікоў ніжняга ярусу ў той час, не дапускаць псаваньня галовак пры зажыме іх дзікамі і гуманобым рэмнем церабільнага апарату.

Для нармальнай і бесьперабойнай працы машыны, неабходна рэгулярна і акуратна весьці за ёй догляд, які будзе ў асноўным састаяць у наступным:

1) Пры атрыманьні гаспадаркай новай машыны, неабходна зрабіць праверку правільнасьці зборкі і замацаваньня рабочых частак яе, карыстаючыся для гэтага асобнымі інструкцыямі, прысылаемымі сумольна з машынамі.

2) Сабраную і правераную машыну неабходна замазаць па ўсім трушчымся часткам, дзе маюцца масьленкі, перад пускам яе на працу абавязкова абкатаць у халастую, каб ачысьціць патрэбныя месцы ад фарбы і некаторых шурпатасьцяй, яшчэ рад даскакала аглядзеў правільнасьць падгонкі і замацаваньня яе частак.

3) У час працы машыны, ня менш 2 разоў у зьмену, рабіць праверку адказных рабочых частак машыны і яе дэталей, праверыць замацаванасьць вінтоў, гаек, абавязкова праводзячы даскакальную змазку па неабходным месцам.

4) Гэтую-ж праверку і змазку праводзіць і пасьля аканчаньня працы, а ў час апошняй недапускаць магчымага накручваньня сьцяблоў на шасьцяронках і іх загразьненьня.

Выключэньне і ўключэньне на хаду машыны не дапускаецца.

Пры рабоце машыны са снапавязальным апаратам, вызначаецца брыгада ў наступным складзе: 1 брыгадзіра, 1 трактарыстага, 2 рабочых на прычэпках да трактара, 2 машын і 4—5 рабочых, з дапамогай брыгадзіра па збору снапоў і ўстаноўцы іх у бабкі.

Пры адсутнасьці церабільных апаратаў, к вызначанай брыгадзе ў 9 чал., даладаюцца па 1 рабочаму на кожную машыну для прыёмкі і ўкладкі выцерабленага лёну, а таксама рабочыя па вязаньню снапоў за машынай па 3—4 чал., што складае брыгаду ў 18—21 чал.

У 1932 г. на калгасных палёх будзе працаваць і ільнаўборачная машына тыпа „Піанэрка“.

Машына церабіць лён, зьбірая яго ў снапы і аслабаняецца ад іх па меры накапленьня.

Машына „Піанэрка“ мае невялікае цягавае супраціўленьне ў 104 **кг** у той час, калі „Камсамолка“ мае 242 **кг**.

Для працы яна патрабуе 1—2 коняй і можа выцерабіць 0,8 **га** лёну за 8 гадзін.

Пры зьмешаным спосабе ільнаўборкі ў гэтым годзе машынамі і рукамі, гаспадарцы неабходна ўжыць усе крокі для правільнага рацыянальнага і поўнага скарыстаньня існуючых церабільных машын.

Пры церабленьні кіравацца наступнымі правіламі:

1) Для машыннай уборкі адводзіць у першую чаргу больш чысты ад пустазельля і больш высокі лён па свайму росту, а таксама і вучасткі аднолькавыя па астатнім сваім знадворным прыкмакам.

2) Моцна засьмечаныя палі, з неаднолькавым травастоем, патрэбна ўбіраць ручным спосабам, абавязкова прымяняючы дэталёвую сартыроўку сьцяблоў лёну, або двайное цераблення, выбіраючы культуру ад пустазельлевых расьлін.

3) Ручному цераблення падлягаюць усе нізкія па рэльефу палі, або вучасткі, дзе ня могуць працаваць машыны і трактары, а таксама на мясцох з моцна палёгшым лёнам, які ня будзе паднімацца пальцамі падвадзячага апарату машыны і лён ня будзе пападаць у церабільны апарат.

4) Як пры машынным спосабе ўборкі, гэтак і пры ручным—сурова захоўваць асноўныя правілы працэсу цераблення: а) ня блытаць сьцяблоў лёну; б) як мага больш аддзяляць ад пустазельлевых расьлін; в) выцераблены лён хутка і раўнамерна прасушваць.

5) Пры ўсіх спосабах уборкі, патрэбна вызначаць вучасткі, апрадзяліць іх першачарговасьць уборкі, падрыхтаваць машыны і патрэбны інвэнтар для ўборкі, зрабіць правільную і чоткую расстаноўку сіл і сродкаў і праз сацыялістычныя мэтады працы: ударніцтва і сацспаборніцтва, дабіцца скарачэньня тэрмінаў цераблення лёну, праводзячы яго з усімі якаснымі паказчыкамі. **А. Караткевіч.**

XVIII






*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ Калектывізацыі

17 1932 ВЕРАСЕНЬ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



# ПРА АРГАНІЗАЦЫЮ ЗАГАТОВАК, ЦЭНТРАЛІЗАВАНЫ ПЛЯН ЗАГАТОВАК І ВЫВАЗ БУЛЬБЫ УРАДЖАЮ 1932 ГОДУ

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

З мэтаю шырокага разгортваньня калгасамі, калгасьнікамі, калгаснымі таварнымі фэрмамі і працоўнымі сялянамі савецкага гандлю бульбай, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць цэнтралізаваны плян загатовак бульбы па БССР ураджаю 1932 году ў колькасьці 420 тысяч тон (у тым ліку 10 тысяч тон чыстагатункавай бульбы для дзяржнасенфонду), замест фактычна загатоўленых з ураджаю 1931 году 460 тыс. тон і вызначанага пляну ў 1931 г. 750 тыс. тон, пры росьце пасеўнай плошчы па бульбе ў гэтым годзе на 53 тыс. га параўнальна з 1931 г. і ў зьмену пастановы Эканамічнага Савету ад 9-III—32 г. аб устанаўленьні пляну кантрактацыі бульбы ў 750 тыс. тон.

2. Паказаны вышэй плян разьмеркаваць па сэктарах наступным чынам: па саўгасах 15 тыс. тон, по калгасах 150 тыс. тон, аднаасобнікам і калгасьнікам —255 тыс. тон.

Даручыць упаўнаважанаму Камітэту загатовак СПА па ўзгадненьні з НКЗемляробства і Белкалгасцэнтрам устанавіць, якая колькасьць з агульнага пляну загатовак калгасамі павінна быць дана на выкананьне МТС і плодагародкалгассаюзамі.

3. Паданы ўпаўнаважаным Камітэту загатовак СПА праект разьмеркаваньня пляну бульбазагатовак па раёнах зацьвердзіць і не пазьней 11-VIII спусьціць рго раёнам.

Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты давесьці плян бульбазагатовак да паселішча і калгасу не пазьней 25-VIII г. г.

Даць калгасам, калгасьнікам і працоўным аднаасобным гаспадаркам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян загатовак бульбы магчымасьць прадаваць лішкі бульбы на базарах і праз калгасныя крамы, забараніўшы мясцовым арганізацыям абмяжоўваць іх у гэтай справе з тым, аднак, што калгасы, калгасьнікі і аднаасобнікі, якія зрываюць выкананьне дзяржаўнага пляну бульбазагатовак, пазбаўляюцца права прадаваць бульбу на базарах да выкананьня імі пляну бульбазагатовак.

4. Асноўнымі загатоўшчыкамі бульбы ўраджаю 1932 г. па цэнтралізаваным пляне зацьвердзіць: па тэхнічнай бульбе броварную і крухмальную прамысловасьць НКСнабжэньня і НКЗемляробства БССР, па чыстагатунковай бульбе для дзяржнасенфонду—беларускую кантору Саюзнасенаводу, а па сталовай—Белкаапсадгародніну, Белплодгародніну і ЛСПО. Апошні дапускаецца да самастойных загатовак у адведзеных для гэтага 10 раёнах у ліку пляну Белкаапсадгародніны.

5. Вываз за межы БССР для снабжэньня пралетарскіх цэнтраў устанавіць у 165 тыс. тон, з якіх: Белсадгародніну вывозіць 55 тыс. тон, Белкаапсадгародніна—110 тон.

6. Пашырыць на загатоўкі бульбы мэтады арганізацыі загатовак і давядзеньне плянаў, якія ўстаноўлены СНК БССР 30 ліпеня г. г. для збожжазагатовак.

7. Устанавіць наступныя канчатковыя тэрміны выкананьня заданьняў па цэнтралізаваным пляне бульбазагатовак: для крухмальнай прамысловасьці да 1-XII 1932 г., броварнай—1-II 1933 г., для

снабжэньня гарадоў БССР і ваенведу—15-XI—32 г., вывозу за межы БССР—1-IX 1932 г., па гатунковай бульбе—1—XI-1932 г.

8. Папярэдзіць усе раённыя выканаўчыя камітэты, што ніякія патрабаваньні аб завозе насеннай бульбы ў раёны задавальняцца ня будуць, таму для забесьпячэньня пашырэньня пасеўнай плошчы ў 1933 г. павінны быць утвораны мясцовыя насенныя фонды. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты, МТС, раённыя калгассаюзы і беларускую кантору Саюзнасенаводу правесьці абмен чыстагатунковай бульбы ў часе асеньніх загатовак з тым, каб уся гатунковая бульба дзяржнасенфонду была цалкам скарыстана на пасеў у калгасах, а звычайная вдана загатоўчым арганізацыям.

9. Для забесьпячэньня броварнай і крухмальна-патачнай прамысловасьці неабходным бульбяным сырцом устанавіць, што ў зонах, адведзеных для прамысловасьці, адзіным загатоўшчыкам зьяўляецца сама прамысловасьць. Ніякія іншыя дзяржаўныя і каапэрацыйныя загатоўшчыкі, да поўнага выкананьня пляну загатовак для прамысловасьці, ня маюць права праводзіць у гэтых зонах ні цэнтралізаваных загатовак бульбы, ні самазагатовак.

У тых выпадках, калі існуючыя зоны не забясьпечваюць поўнага выкананьня плянаў па снабжэньні бульбай заводаў броварнай і крухмальнай прамысловасьці, раённым выканаўчым камітэтам даецца права пашыраць вызначаныя зоны да межаў, сапраўды патрэбных для забесьпячэньня патрэб прамысловасьці, і ні ў якім разе не дапускаць парушэньня адведзеных зон.

10. Ускласьці асабістую адказнасьць за поўнае і сваячасовае выкананьне плянаў цэнтралізаваных загатовак, вывазу бульбы, а таксама па снабжэньні бульбай броварнай і крухмальна-патачнай прамысловасьці на кіраўнікоў рэспубліканскіх загатоўчых арганізацый, а ў раёнах—на старшынь раённых выканаўчых камітэтаў.

11. Улічваючы вопыт мінулага году, калі ў выніку дрэннай арганізацыі хаваньня (буртаваньня сырой і неперабранай бульбы, дрэнная ізаляцыя буртоў ад марозаў і г. д.) у многіх раёнах мела месца псаваньне бульбы, калгасныя арганізацыі і раённыя выканаўчыя камітэты павінны паставіць арганізацыю хаваньня бульбы, як важнейшую задачу і мець пастаянны нагляд за ходам буртаваньня.

Асоб, вінаватых у псаваньні бульбы з прычыны дрэннай і няправільнай буртоўкі (брыгадзіраў, старшынь калгасаў, дырэктароў бровароў, крухмальных заводаў і г. д.) прыцягваць да суровай крымінальнай адказнасьці.

За арганізацыю хаваньня бульбы па галіне гандлюючых арганізацый ускласьці адказнасьць на кіраўнікоў гэтых арганізацый, прапанаваўшы ім у 10-дзенны тэрмін скласьці канкрэтныя апэрацыйныя пляны хаваньня бульбы ў гарадох. Гарадзкія саветы павінны аказаць садзейнасьць у прадастаўленьні адпаведных памяшканьняў для хаваньня бульбы.



Уборка раньняй бульбы ў калгасе „Чырвоны Гароднік" пад Менскам.

12. Асаблівае значэньне набывае правільная арганізацыя гужавога падвозу бульбы з прыстанскіх і прыстанцыйных пунктаў і заводаў броварнай і крухмальнай прамысловасьці.

Даручыць раённым выканаўчым камітэтам у 10-дзенны тэрмін скласьці апэрацыйны каляндарны плян гужавых перавозак бульбы па раёну. Адказнасьць за забесьпячэньне гужавой сілай, сваячасовы вываз бульбы, адпаведна з плянавымі заданьнямі, ускласьці асабіста на старшынь раённых выканаўчых камітэтаў.

Ускласьці на раённыя выканаўчыя камітэты таксама абавязацельствы па арганізацыі і нагляду за пагрузачнымі работамі на прыстанскіх і прыстанцыйных пунктах.

Арганізацыя і нагляд за разгрузкай бульбы ў гарадох ускладаецца на гарсаветы.

Абавязаць Беларускую кантору Саюзтранс у пяцідзенны тэрмін падаць на зацьверджаньне ЭКАСА канкрэктны плян вызначаных аўтамашын на час масавай перавозкі бульбы і гародніны.

13. Абавязаць упаўнаважанага НКШляхоў пад адказнасьць тав. Эгле і ўпаўнаважанага НКводнага транспарту, пад адказнасьць т. Пачэбута забясьпечыць кругласутачныя пагрузачна-разгрузачныя работы на станцыях і прыстанях, дзе праводзіцца масавая пагрузка бульбы.

З мэтай зьмяншэньня часу знаходжаньня бульбы ў дарозе, абавязаць асноўных загатоўшчыкаў арганізаваць сыстэму адгрузкі бульбы маршрутамі.

Упаўнаважанаму НКШляхоў забясьпечыць нормальную падачу вагонаў для стварэньня маршрутаў.

14. Абавязаць Белкаапсаюз забясьпечыць атрыманьне з прыгарадных гаспадарак спажыўкаапэрацыі і звыш цэнтралізаванага пляну бульбазагатовак 14 тыс. тон бульбы і ўстанавіць, што гэта колькасьць бульбы застаецца ў сыстэме спажыўкаапэрацыі для снабжэньня рабочых і на патрэбы грамадзкага харчаваньня.

15. Абавязаць НКСнабжэньня і Белкаапсаюз у тэрміновым парадку дабіцца ў НКСнабжэньня і Цэнтрасаюзе СССР вызначэньня для БССР прамтаварных фондаў паводле пастановы СПА ад 28-VII г. г. у адпаведнасьці з адносаю вагой БССР па загатоўках тэхнічнай бульбы.

Пасьля атрыманьня гэтых фондаў Белкаапсаюзу, па ўзгадненьні з аб'яднаньнямі броварнай і крухмальна-патачнай прамысловасьці, завесьці ўказаныя прамтавары ў раёны загатовак тэхнічнай бульбы.

16. Улічваючы, што пасьпяховае выкананьне пляну бульбазагатовак залежыць ад сваячасовага і добраякаснага капаньня бульбы, абавязаць НКЗемляробства, Белкалгасцэнтр, а таксама раённыя выканаўчыя камітэты і райкомы забясьпечыць сваячасовае капаньне бульбы і недапушчэньне страт.

Прапанаваць НКЗемляробства і Белкалгасцэнтру не пазьней 1-IX г. г. устанавіць каляндарна-апэрацыйны плян капаньня бульбы па асобных зонах.

Аднэй з важнейшых умоў своечасовага і поўнага выкананьня пляну бульбазагатовак зьяўляецца ўвязка капаньня бульбы з загатоўкамі паасобку, неабходна забясьпечыць масавую дастаўку бульбы непасрэдна з месц капаньня на прыстанскія пункты і заводы.

17. Прапанаваць гарсаветам і раённым выканаўчым камітэтам ужыць рашучыя захады да ўзмацненьня раённага і нізавога загатоўчага апарату (райзагі, сельспажыўтаварыствы, райканторы Белсадгародніны), забараніўшы ўсякую перакідку работнікаў гэтых апаратаў на іншую работу.

18. Прапанаваць НК РСІ БССР устанавіць нагляд за выкананьнем гэтай пастановы, прыцягваючы да суровай адказнасьці кіраўнікоў устаноў, прадпрыемстваў і раённых арганізацый, вінаватых у яе невыкананьні.

**Старшыня Савету Народных Камісараў БССР М. ГАЛАДЗЕД.**

**Кіраўнік спраў Савету Народных Камісараў і Эканомсавету БССР С. КАНДЫБОВІЧ.**

---

# АБАРАНЯЦЬ ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ

„Законнасьць,—пісаў Ленін, — ня можа быць Калуская і Казанская, а павінна быць Усерасійская і нават адзіная для ўсёй фэдэрацыі савецкай рэспублікі... законнасьць павінна быць адна, і асноўным злом ва ўсім нашым жыцьці і ва ўсёй нашай някультурнасьці зьяўляецца дапушчаньне сапраўды расійскага пагляду паўдзікуноў, жадаючых захоўваць законнасьць Калускую ў адзнаку ад законнасьці Казанскай“.

За мінулы час СССР дасягнуты вялікія посьпехі ў справе ўмацаваньня рэвалюцыйнай законнасьці. Яна зьяўляецца адным з важнейшых сродкаў умацаваньня пралетарскай дыктатуры, абароны інтарэсаў рабочых і працоўных сялян у барацьбе з клясавым ворагам (кулацтвам, перакупшчыкамі-спэкулянтамі, буржуазнымі шкоднікамі) і іх контррэвалюцыйнай агентурай.

Важнейшую пастанову ўраду аб рэвалюцыйнай законнасьці ў Мусіцкім сельсавеце, Слуцкага раёну, у выніку клясавай сьлепаты парт'ячэйкі і сельсавета, клясавы вораг скарыстаў для свае контррэвалюцыйнае работы. Тлумачачы, што выхадцы з калгасаў і ўсе аднаасобнікі (у тым ліку і кулацтва) зараз-жа атрымаюць па 2 га сядзібы і ня менш 5 га зямлі на сям'ю, засеянай калгасам. Клясавы вораг у даным выпадку не атрымаў належнага адпору з боку ячэйкі і сельсавету; пабаяліся хаця-б чаго дрэннага ня вышла.

Абмяжоўваючыея маўчаньнем, не праводзячы масава-растлумачальнай работы вакол гэтага пытаньня да сёнешняга дню многімі ячэйкамі гэтая пастанова не папулярызуецца ў сельсаветах, — працягваецца грубае парушэньне рэвалюцыйнай законнасьці. Адсюль зусім не выпадкова наглядаецца ўзмацненьне актыўнай дзейнасьці кулацтва і яго агентуры супроць пастановы аб рэвалюцыйнай законнасьці.

Напрыклад, прэзыдыум Пагарэльскага сельсавету выключае калгасьнікаў з калгасу. Меліся факты нават арышту беднякоў-калгасьнікаў у Казанскім сельсавеце, масавае штрафаваньне.

Ёсьць факты грубага парушэньня рэвалюцыйнай законнасьці з боку некаторых кіраўнікоў устаноў, калгасаў і г. д. Такая практыка работы грае толькі на руку клясаваму ворагу-кулаку і яго права-„лявацкай“ агентуры.

Патрэбна прыняць меры да праверкі практыкі накладаньня штрафаў райвыканкомамі і сельсаветамі, у асаблівасьці ў сувязі з сельскагаспадарчай кампаніяй. Неабходна зьнішчыць факты накладаньня цьвёрдых заданьняў, раскулачваньня і інш. у адносінах паасобных калгасьнікаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Пасьлядоўна праводзячы ўстаноўленыя савецкімі законамі меры ў адносінах кулацкіх элемэнтаў, з бальшавіцкай жорсткасьцю і непрымірымасьцю змагацца з агентурай клясава-варожых элемэнтаў, больш сурова караць тых, хто парушае прынцыпы рэвалюцыйнай законнасьці. Праводзіць у жыцьцё асноўнае палажэньне Леніна аб больш строгіх пакараньнях у адносінах членаў партыі і лічыць партыйным злачынствам замазваньне віны і павіннасьці любога члена партыі, якое-б высокае месца ён не займаў у партыйнай арганізацыі.

Упартая разгорнутая барацьба за няўхільнае ажыцьцяўленьне пастаноў партыі і ўраду аб рэвалюцыйнай законнасьці—баявая задача дня, важнейшае зьвяно штодзеннай работы ўсіх арганізацый. Рэвалюцыйнай законнасьці — адказнейшаму участку ўмацаваньня пралетарскай дыктатуры—выключную ўвагу.

Вядучы непрымірымую барацьбу супроць правых апартуністаў, супроць „левакоў“ і прымірэнцаў да іх, супроць усялякіх скажэньняў палітыкі партыі і малейшых парушэньняў рэвалюцыйнай законнасьці—яшчэ больш умацуем дыктатуру пралетарыята.

**М. Гельфанд.**

## ПРА АХОВУ МАЕМАСЬЦІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, КАЛГАСАЎ І КААПЭРАЦЫІ І ЎМАЦАВАНЬНЕ ГРАМАДЗКАЙ (САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ) УЛАСНАСЬЦІ

# Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

Надаючы выключна вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і кааперацыі і ўмацаваньне грамадзкай (сацыялістычнай) уласнасьці ад 7 жніўня 1932 году („Известия“ ЦИК СССР і ВЦИК за 8 августа 1932 г. № 218), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1) Прапанаваць усім дзяржаўным, калгасным і каапэрацыйным арганізацыям ужыць самыя рашучыя захады да аховы ад раскрадваньня маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, транспартных грузаў і маемасьці калгасаў і каапэрацыі.

2) Прапанаваць гарсаветам, РВК, Народнаму камісарыяту юстыцыі і ўсім органам савецкай улады павесьці самую рашучую і бязьлітасную барацьбу з тымі хуліганствуючымі і антыграмадзкімі элемэнтамі, якія раскрадаюць калгасную і каапэрацыйную маемасьць, грузы на транспарце, а таксама і з тымі антыграмадзкімі кулацкімі элемэнтамі, якія ўжываюць насільле і пагрозы, або агітуюць за ўжываньне насільля і пагроз да калгасьнікаў, з мэтай прымусіць апошніх выйсьці з калгасаў і тым самым насільна разбурыць калгас.

Прапанаваць органам пракуратуры праводзіць сьледзтва па ўказаных справах у самым тэрміновым парадку, а судовым органам разглядаць гэтыя справы бяз усякай чаргі.

3) Прапанаваць народнаму камісарыяту юстыцыі на працягу 5 дзён унесьці ў Савет Народных Камісараў БССР праект зьмены ў крымінальны кодэкс БССР, якія вынікаюць з указанай пастановы ЦВК і СНК СССР. Прапанаваць судовым органам, кіруючыся гэтай пастановай ЦВК і СНК СССР, да ўнясеньня адпаведных зьмен у крымінальны кодэкс БССР, ужываць меры сацыяльнай абароны, прадугледжаныя ў паказанай вышэй пастанове ЦВК і СНК СССР.

4) Прапанаваць усім саветам, раённым выканаўчым камітэтам, калгасным і каапэрацыйным арганізацыям і народнаму камісарыяту юстыцыі шырока папулярызаваць пастанову ЦВК і СНК Саюзу ад 7 жніўня 1932 г.

В. а. старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР—**М. Гіліякевіч.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

За сакратара Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **Ляўкоў**

# УДАРНАЯ СЬПЕШКА

Мы ня ведаем, як сьпіцца Рапапорту, ня ведаем, ці сварыцца ці не з сваёй жонкай Карака, ці наракае жонка Зімко на тое, што яе муж ужо вось другі год таўсьцее.

Мы гэтага ня ведаем і ня цікавімся такімі справамі. Мы толькі часамі павярхоўна, для аналёгій, успамінаем гісторыю з дурнем, якога, як гаворыць старая прыказка, прымусілі маліцца богу, а ён сабе галаву разьбіў.

Справа ў тым, што ня сам-жа той дурань маліўся, а яго прымусілі!

Можа прымусілі яго так пільна адбіваць паклоны, што ён і ня мог не разьбіць сваё галавы?

Можа ён ня быў нават дурнем, ня быў зацятым багамолам, а зусім наадварот,—першым атэістам.

Можа ён зьвіхнуўся ў выніку прымусу? Прычынай гэтаму паслужыла, як нам марксыстам вядома, яго так сказаць, сацыяльна-эканамічнае становішча ў эпоху царкоўнай тыраніі.

Вось скажам такое пытаньне да Слуцкіх кіруючых работнікаў:

— Ці ведаеце вы, якімі шляхамі і дарожкамі вядуць арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў правадыры Амговіцкага сельсавету?

— Ці даходзяць, ці не да Амговіцкага сельсавету газэты і хто іх там чытае?

— Ці чытаюць, ці не пастановы партыі і ўраду правадыры Амговіцкага сельсавету, а калі чытаюць, дык як жа яны іх разумеюць і, галоўнае, як ажыцьцяўляюць?...

— Ці вядома кіруючым Слуцкім арганізацыям, як ажыцьцяўляюцца пастановы партыі і ўраду, хаця-б аб рэвалюцыйнай законнасьці ў вышэй адзначаным Амговіцкім сельсавеце?

— Па гэтых пытаньнях ня было абсьледваньня... А можа яшчэ будзе?.. прадракаюць сельсаветчыкі.

У маштабах сельсавету яны ўтрох прадстаўляюць: партыю, саветы, калгасы, і, наогул кажучы, савецкую ўладу...

Яны ўсё трое партыйцы са стажам суровых вымоў, апошніх папярэджаньняў, выключэньняў з партыі і ўмоўных судовых пакараньняў, зьняволеньняў. Гэта ўсё ў мінулым іх аўтабіяграфіі.

— А чым-жа яны адзначыліся, што на старонках газэты ім адводзіцца такое пачэснае месца і прозьвішча іх надрукаваны курсывам?

Зімко, Рапапорт, Карака—сакратар парт'ячэйкі, старшыня сельсавету, старшыня калгасу.

— Ну дык чаму-ж мы ня можам быць гэроямі сацыялістычнай будоўлі, чаму-ж ня могуць друкаваць аб нас хвалебныя артыкулы—скажуць Зімко, Карака і Рапапорт.

— Тысячы раз можам... Вось разьбярэмся...

— Чым наш сельсавет горшы другіх?

— Нічым!..

— Чым дрэнна мы выканалі веснавую сяўбу?

— Нічым! Асталося ў нас незасеяным ад вясны па сельсавеце гэктароў 400—мы іх у папер пералічылі. А ад азімага кліну застанецца—у яравы пераведзем. А з яравога зноў у папар... А там бог бацька, там-жа будзе сацыялізм, будзе поўная калектывізацыя, ня будзе аднаасобнікаў—можна будзе дзерваны падымаць і пасеўплошчу павялічваць.

— Уборка ў нас ідзе таксама ўдарнымі тэмпамі...
— Аднаасобны сэктар, гэ-гэ-гэ, у нас у авангардзе пасеўнай быў і цяпер ударна закончыў уборку сенажаці, азімых і яравых...

Калі вы запытаецеся ў вышэйадзначаных правадыроў: як-жа вы арганізавалі перамогу аднаасобнага сэктару ў час сяўбы і ўборкі?—Вам любы з іх адкажа, здаволена ўсьміхаючыся:

— Вельмі проста. Па-першае, і ў гэты грунт увялі шырокую растлумачальную работу аб тым, што аднаасобнік можа атрымаць зямлю... толькі на... невядома дзе... А калі прышлі настойлівыя і навойлівыя дырэктывы з цэнтру і ад заяў ня было супакою, сакратар сельсавету адводзіў зямлю аднаасобнікам, а старшыня Рапапорт забараняў сеяць і адводзіў у іншым месцы.

Так, бачэце, працавалі да завяршэньня сяўбы, дакладней кажучы, да таго часу, калі ўжо нельга было сеяць,—наогул да апошняга рапарту аб перамозе.

Так арганізацыйна-гаспадарча ўмацоўваюць калгасы ў Амговіцкім сельсавеце—так на канкрэтных фактах паказваюць перавагу калектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай... так ажыцьцяўляюцца дырэктывы партыі і ўраду аб рэвалюцыйнай законнасьці.

А вось яшчэ адна характэрная старонка барацьбы Амговіцкіх герояў „лявацкіх“ загібаў... за моцны калгас.

* * *

Аб гэтым факце мы пачнем кароткае апавяданьне так, як пачынаюць пісаць нарысы.

... Быў ціхі, дапусьцім, пагодны жніўвенскі вечар. Сонца схавалася за густым хвойным лесам. У паветры павільгатнела... У гэтую пару Падлошыцкія калгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі зьбіраліся вячэраць...

Раптам у вёску Падлошыцу галопам прыскакала тры фурманкі. На чале гэтага проезду быў Рапапорт і Карака.

— Так хутка ўляцелі ў вёску, што не пасьпелі ўцячы з вуліцы нават дзеці,—кажуць аб гэтым Падлошыцкія цёткі...

— Адчыняй вароты,—загадаў Карака рабочаму МТС, аднаасобніку Ралько.

Жонка Васіля Ралько Дар'я сказала вёска сваё супроць:

— Не адчыню. Таксама як і летась прыедзеце, забярыцё бульбу і тады судзіся з вамі...

Але Карака вопытны работнік у справе наездаў. І яшчэ нават не пасьпела агледзіцца Дар'я, як зьнятыя варота з крукоў усім цяжарам зьбілі яе з ног, а па баку варот праехала калясо першага возу з паважаным Рапапортам. Калясо яшчэ больш прыціснула руку Дар'і... Яна ня магла крычаць... Яна толькі доўга і ціха стагнала. Пасьля гэтага яна лячылася, атрымлівала ад доктара якіясьці спраўкі аб пабоях.

Але гэта кажуць у Амговіцкім сельсавеце ня ў пяршыню.

— І на гэты раз што ты з імі зробіш...—кажуць цёткі.

Доўга спрачаліся Падлошыцкія калгасьнікі і аднаасобнікі ў той вечар з Каракай і Рапапортам...

Карака і Рапапорт сваім аўтарытэтам і вынятымі з кішэнь партбілетамі даводзілі сваю праваату...

— Справа-ж ясная. Табе, Ралько Васіль, сакратар сельсавету адвёў зямлю, а я старшыня сельсавету забараняю сеяць і даю табе зямлю ў другім месцы. А цяпер, калі ты засееў і сабраў, мы забярэм у цябе ўраджай. Гэта наш ураджай! Хоць праз суд, а забярэм!.. Ты не па закону засееў.—Я па зямлі, а не па закону сееў. А што цяпер рабіць?

— Ідзеце ў калгас, нам рабочая сіла патрэбна, а калі ня пойдзеце, дык мы вам і зямлі не дадзім і кругом аштрафуем. Мы члены партыі, нам усе паверыць, а вам ніхто.

— Мы можам вам даць зямлі і па азімаму кліну давесьці цьвёрдае заданьне і тады вы зусім ніхто—будзеце кулакі,—заявіў у заключным слове Рапапорт.

— А табе што тут, ты таксама спрачацца? Так і знай, што ты з сёнешняга дню выключан з калгасу,—крыкнуў паганяючы коняй Карака на кагосьці...

— Назаўтра Алесь Ралько—калгасьнік калгасу „Батрак“, трактарыст і сьлёсар—рабочы МТС атрымаў акладны ліст з сельсавету...

— А ўборка па Амговіцкім сельсавеце праходзіць ударна. Сена аднаасобнікі ўбралі першымі з першых.

— І ня толькі ўбралі самі,—дададуць вам Амговіцкія правадыры,—але і пераключыліся на дапамогу калгасам. Сакрэт гэтага ў тым, што сенажаці мы адвялі лічаным аднаасобнікам і таму яны хуценька ўбралі іх, а пасьля пераключыліся на дапамогу калгасьнікам—косяць у калгасах на палавіну.

Азімыя пасевы аднаасобнікі ўбралі бяз страт, бяз страт убраны і яравыя! Праўда, і ўбіраць то ня было чаго, але ўбралі першымі і ўдарна.

— А чаму адстаюць калгасы Амговіцкага сельсавету?

— Таму, што рабочай сілы няма, а зямлі чорт ведае колькі—гаворыць старшыня калгасу „Батрак“, ужо знаёмы нам Карака.

— Мой калгас „Батрак“ з 36 гаспадар, мае 400 га пахаці і 300 га сенажаці.

— Гігант, браце, а з раёну не дапамагаюць. Што-ж, я адзін засею і ўбяру?..

— Што, думаеце, мала працы было арганізаваць такую веліч?

— Тое, што ад веснавой сяўбы ў мяне засталося гэктараў 100 ляжаць дзерванам—я ня ўтойваю. Але якая вам справа да гэтага? У мяне можа гэтыя 100 га будуць азімым клінам?

— Толькі вось што тады рабіць з тэй зямлёй, якая пад азімы клін адведзена?

Зноў скажуць пляну ня выканаў.

— Хай сабе, раз ня выканаў 100 га хай дзерваном ляжаць. На пашу прыдасца. У гэтым годзе трава там у рост чалавека.

— А вось з сенам, дык у мяне атрымалася так, што па разьбітых пракосах парасла атава і атаву пара ўжо касіць. Але гэта глупства!..

— Я загадаў, каб скасіць атаву і ўбраць разам з разьбітым сенам. Вось такім чынам заб'ем двух зайцоў: і ўбярэм з меншай затратай рабочай сілы сена і атаву—і выканаем дырэктыву партыі аб двух укосах. Так разважаюць амговіцкія героі?

— Ну і чым дрэнныя ў нас справы? Чым мы ня героі?..

Мы амгавічане згодны, што Зімко, Рапапорт, Каракавы—героі „лявацкіх“ загібаў і грубейшых парушэньняў рэвалюцыйнай законнасьці.

Вы ўдарна сьпяшалі з веснавой сяўбой, уборкай, надзялілі ўсіх працоўных аднаасобнікаў зямлёй.

Што і гаварыць, сьпешкі хапіла! Толькі не дашлі вы яшчэ да аднаго, вельмі важнага месца для вас, хоць і з-узята сьпяшаецё.

— Сьпяшайце, сьпяшайце Амговіцкія героі ў належнае месца. У гэтым вам дапамогуць Слуцкія кіруючыя арганізацыі і, у першую чаргу Райком.

— Пажадаем посьпеху хутчэй дайсьці да патрэбнага месца для вас!

— Жадаем!

**Ян. Бон.**

# Суботнік

Нарыс **Тодара Алесіна**.

Малюнкі **Малевіча**.

Надыходзіў летні вечар.

Іван Сінельшчыкаў вышаў з сталоўкі і накіраваўся да свае палаткі. За крокаў 40 яго вочы натkнуліся на вялікі ліст жаўтаватае паперы з чорнымі літарамі. Здалёк гэтыя літары здаваліся накінутымі на паперу плямамі і Сінельшчыкаў нічога ня мог прачытаць.

Падышоў бліжэй.

На „штатнай“ хвоі прыбіты дзьве палкі. На сваіх канцох, як пальцамі, яны трымалі ліст паперы, а з паперы літары апавяшчалі:

> **Заўтра!**
>
> **УСЕ**
> **на ВАРАШЫЛАЎСКІ**
> **СУБОТНІК**
> **у саўгасе**
> **„ЛЕКЕРТА“!**
>
> **Адсек КП(б)Б, КСМ**
> **і камандваньне.**

Ідучы да палаткі, Сінельшчыкаў зноў успомніў свой калгас. Успомніў чорнакосую трактарыстку Зіну, з якою на зьмену працавалі на трактары.

— І працавалі-ж! Усё ішло па спаборніцтву. А Зіна... Ох, гадаўка!.... Рыхтык у свае вочы ўдалася. Шьвыдкая дзяўчына, рухавая.

Насустрач ішоў курсант палкавое школы, заўсёды заклапочаны, Ярмакоў.

— Ванька, чуў?—крыкнуў ён Сінельшчыкаву.

— Што?

— Заўтра суботнік.

— Чуў, аб'яву чытаў...

— Ярмакоў пашоў. А Сінельшчыкаў зноў пераляцеў думкамі ў свой калгас.

„Так, значыць заўтрашні дзень ператворым, як гаворыцца, у дзень чырвонаармейскай барацьбы за ўраджай. Будзем працаваць, як працуюць калгасьнікі. Напішу Зіне пісьмо. Няхай ведае, што я вучуся ня толькі страляць. От ужо шосты раз выходжу на суботнік“.

Неўзабаве ўсе ведалі, што заўтра суботнік і той, хто ня чытаў аб'явы, таксама ведаў. Перадавалася з вуснаў у вусны.

— Заўтра суботнік, заўтра суботнік!

...Ноч, як воран крылаты, апускалася на зямлю. Яна ціханька, нібы падкрадаючыся, чорнай зданьню насоўвалася на палатняны горад—палаткі.

Вось грымнуў, пракаціўся рэхам Інтэрнацыянал. Байцы клаліся спаць, узбройваліся адпачынкам для заўтрашняга дня.

Павольна дагараў дзень у палатняным горадзе. Дзяжурныя і днявальныя больш за ўсіх гэта бачылі. Ім не паложана зараз спаць. Яны бачылі здаровую летнюю ноч у лесе ва ўсёй яе прыгожасьці.

---

Раніца.

Па лесе, па дарожках белага гораду пракаціўся пад'ёмны сыгнал. Ён забег у кожную палатку, паведаміў:

— Уставай, уставай!

Зноў затрапятаўся клапатлівы дзень. Пасьля ўборкі коняй, пасьля сьнеданьня, байцы №-скага палка пастроіліся. Да работы яшчэ патрэбна пакрыць шлях у 10 кілёмэтраў. Гэта адлегласьць лягераў Самарскай кавалерыйскай дывізіі ад саўгасу імя Лекерта.

Усю дарогу самарцы зьвінелі баявымі песьнямі:

„Никто пути пройденного
у нас не отберет,
Эй, конница Буденного
дивизией вперед“.

Адсек парт'ячэйкі Мігуноў і камандзір №-скага эскадрона Багаяўленскі—кіраўнікі суботнікам. Яны заклапочаныя. Непакояцца:

— Ах, чорт іх падзяры! Не падаслалі нікога з саўгасу. Пакуль там знойдзем каго, пакуль пакажуць месца працы, дык пройдзе шмат часу.

Яшчэ грымнула некалькі адрывістых гукаў песені, і духовага аркестру—і самарцы прышлі ў саўгас „Лекерта“. Мігуноў пабег да дырэктара і хутка зьвярнуўся назад.

— Таварышы, зьвярнуўся ён да байцоў,—сягоньня мы будзем праполваць моркаў. Кожны павінен выпалаць 240 квадратных мэтраў. Такое заданьне для кожнага. Зразумела?

— Зразумела!!!—прагучэла сярод чырвонаармейцаў.

Байцы расстаўлены па вучастках.

Брыгада, дзе працаваў Сінельшчыкаў, дагаварылася спаборнічаць з трэцяю брыгадаю 3-га эскадрона. Брыгада 2-га эскадрону спабрнічала з брыгадаю 1-га эскадрона.

Чырвонаармейцы накінуліся на заросшую зельлем моркаў. Атакавалі зельле. Рвуць яго з карэньнямі, скідаюць у кучку. Зрэдку перакідаюцца жартамі.

Сінельшчыкаў вельмі любіў зямлю і работу на ёй. Ён яшчэ ў пялёнках быў, а ўжо езьдзіў на поле. Маці насіла ў калысцы. А як падрос, дык амаль да самай арміі хадзіў за плугам з нейкім сваяcаблівым пачуцьцём. Таму і цяпер браў за сьцябло сарняка, цягнуў яго і сам сабе гаварыў:

— Вылазь, зараза, досыць табе сок адбіраць ад моркаўкі.

Чырвонаармеец Бушыла Паўлюк засьмяяўся:

— Ці ня вучыш ты, Сінельшчыкаў, гэтую моркаў гаварыць чалавечаю моваю.

— Вучу,—адказаў Сінельшчыкаў,—вучу, каб дасканала перакавала загад камандзіра, а то-ж самому табе гэта рэдка калі ўдаецца.

Чырвонаармейцы засьмяяліся.

— Зарабіў? Заўтра пачку папярос купіш. Тольκі-ж нас пачастуй.

Сонца раз-па-разу выбягала з-за рэдкіх хмарак, як-бы наўмысьля падстройваючы, каб сваёю гарачынёю расслабіць энтузіязм чырвонаармейцаў. Але дарма. Брыгада Сінельшчыкава толькі праз 2 гадзіны рашыла перакурыць. Працавалі не разгінаючыся.

Алесь Новікаў зацягнуўся і, выпускаючы з роту клубкі дыму, сказаў:

— Хлопцы, знаеце, што я думаю:

— Што?

— Я думаю, што сам Скараход Язэп лепш сядзіць на градзе, чым на сваім кані. І я гэта магу даказаць тым, што, калі злазіць ён з каня, дык конь застаецца такім самым, а града ўся раскоўзаная.

— А ты хочаш, каб і конь быў раскоўзаны, як града?—умяшаўся Віцэсь.

Потым зноў працавалі.

Час бег, як думкі адна за другою хутка. Нават мала была кім заўважана, што ўжо канчаўся рабочы дзень. Надыходзіў вечар, які з сваім прыходам прынасіў і вынікі работы ўдзельнікаў Варашылаўскага суботніка. А вынікі бліскучыя, нечаканыя. У некалькі разоў была перакрыта норма. Кожным чалавекам была выпалана 700 з лішнім квадратных мэтраў.

Падводзячы вынікі работы, дырэктар саўгасу вынес шчырую падзяку чырвонаармейцам, бо яны гэтым суботнікам досыць значна падагналі справу праполкі ў саўгасе наперад.

Ідучы назад, Сінельшчыкаў думаў:

— „Абавязкова напішу Зіне пісьмо, няхай ведае. Хай раскажа сваім таварышам, што я вучуся ня толькі страляць, вучуся ня толькі вайсковай справе,.. Шосты раз от ужо выхожу на суботнік“.

---

**Дамо Чырвонай арміі клясава-вытрыманае, баяздольнае, пісьменнае і здаровае папаўненьне.**

# УЗОРНА ПРАВЕСЬЦІ ПРЫЗЫЎ

Згодна загаду Рэвалюцыйнага Вайсковага Савету СССР з 1-га верасьня па 1-ае лістапада бягучага году будзе праведзен чарговы прызыў працоўнай моладзі 1910 года нараджэньня ў рады Чырвонай арміі. Па БССР, згодна загаду Камандваньня Беларускае Вайсковае акругі, прызыў павінен быць праведзен з 20-га верасьня па 1-ае лістапада.

Адказьнейшыя патрабаваньні да байца Чырвонай арміі патрабуюць ад партыйных, камсамольскіх, савецкіх, прафсаюзных і калгасных арганізацый па-баявому рыхтавацца да прызыву. Папаўненьне радоў Чырвонай арміі праз правадзімы новы прызыў за лік рабочых, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў і іншага працоўнага насельніцтва—вялікай важнасьці масава-палітычная кампанія.

Па-баявому падрыхтавацца і правесьці прызыў—ганаровая задача!

Уся падрыхтоўчая работа да прызыва павінна быць накіравана на ажыцьцяўленьне асноўнага лёзунгу прызыва: даць Чырвонай арміі клясава-вытрыманае, баяздольнае, пісьменнае, вайскова-палітычна падрыхтаванае і фізычна здаровае папаўненьне.

Клясавы вораг—кулак, нэпман, гандляр і іншыя клясава-варожыя элементы будуць імкнуцца пралезьці ў рады Чырвонай арміі для таго, каб там павесьці сваю падрыўную работу, каб унесьці разлажэньне ў радах Чырвонай арміі.

Сацыяльна-варожым і маральна-разлажыўшымся элемэнтам няма і не павінна быць месца ў радах Чырвонай арміі.

Клясавая пільнасьць і адбор клясава-стойкіх прызыўнікоў—зьяўляецца першачарговай і адказьнейшай задачай прызыва. Недаацэнка важнасьці клясавага адбору павінна быць вытраўлена самым рашучым чынам.

Зараз павінны быць шырока абгавораны сьпісы прызыўнікоў на сходах рабочых, калгасьнікаў, на сходах жанчын, на пленумах сельсаветаў, на групах беднаты. Камісіі садзейнічаньня прызыву пры сельсаветах павінны ўзначаліць гэтую работу.

Цэлы шэраг сыгналаў з месц гаворыць аб тым, што ў радзе месц няпісьменныя і малапісьменныя прызыўнікі ня ўлічаны, не разгорнута работа па ліквідацыі іх няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

А ў некаторых мясцох мы маем яўнае супраціўленьне разгортваньню работы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці. Сакратар Дараганаўскага сельсавету, Стара-Дарожскага раёну камсамолец Кузьміч замест таго, каб арганізаваць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці, заяўляе: „Навошта ліквідоўваць іх няпісьменнасьць, што-ж тады будзе рабіць Чырвоная армія“. Так можа разважаць толькі чалавек, які не разумее сучасных задач сацыялістычнага будаўніцтва і ўмацаваньня абароназдольнасьці савецкага саюзу. Падобныя разважаньні на руку клясаваму ворагу, які імкнецца сарваць ліквідацыю няпісьменнасьці сярод новага папаўненьня Чырвонай арміі, і яны павінны атрымаць сакрушальны адпор.

Мабілізаваць усе грамадзкія арганізацыі, настаўніцтва, увесь актыў на правядзеньне работы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці пры-

зыўнікоў, скарыстаўшы для гэтай мэты ўвесь застаўшыся час да прызыву—баявая задача.

Ня менш важнай задачай зьяўляецца і ліквідацыя вайсковай няпісьменнасьці. Тут асоавіяхімаўскія і камсамольскія арганізацыі, у парадку іх вайсковай работы, павінны адыграць вялікую ролю.

Нельга ігнараваць і правядзеньне санітарна-аздараўленчых мерапрыемстваў. У сваёй дырэктыве вайскова-санітарная ўправа Беларускае Вайсковае акругі з усёй выразнасьцю вызначае неабходнасьць правядзеньня прызыўнікам прафілактычнае прышчэпкі супроць воспы і тыфусу. Мы маем факт, калі інспэктар Рагачоўскага райздрава Фёдарава самым злачынным спосабам зрывае гэтую работу. У правядзеньні санітарна-аздараўленчых мерапрыемстваў вялікую ролю павінны адыграць таварыствы Чырвонага крыжу.

Уся работа па падрыхтоўцы і правядзеньні прызыву павінна праходзіць пад сьцягам сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Пачын прызыўнікоў Менскага раёну павінен быць падхоплен усёй пралетарскай грамадзкасьцю БССР. Прызыўнікі Менскага раёну ўзялі на сябе наступныя сацыялістычныя абавязацельствы, высунуўшы іх паказальнікамі спаборніцтва:

Узорна правесьці клясавы адбор. Актыўна ўдзельнічаць у выяўленьні клясава-варожых элемэнтаў, якія імкнуцца пралезьці ў рады Чырвонай арміі і ніводнага з іх не дапусьціць у рады РСЧА.

Поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць і малапісьменнасьць прызыўнікоў. Кожнае прадпрыемства, кожны саўгас і колгас вылучаюць брыгады лепш падрыхтаваных прызыўнікоў для ліквідацыі няпісьменных і малапісьменных сярод прызыўнікоў.

Стопроцантная і сваячасовая яўка на прызыў.

Стопроцантаў прызыўнікоў-ударнікаў сацыялістычнага будаўніцтва, якія выконваюць і перавыконваюць свой прамфінплян да апошняга дня ўходу ў Чырвоную армію.

Сто процантаў прызыўнікоў саўгасаў і калгасаў—ударнікі ўборачнай, якія паказваюць узоры сацыялістычных адносін да ўборкі ўраджаю праз стварэньне спэцыяльных ударных брыгад прызыўнікоў па барацьбе за тэмпы і якасьць уборкі.

Ніводнага прызыўніка, які прышоў у РСЧА, без аблігацыі пазыкі „4-га завяршаючага году пяцігодкі“.

Максымум прызыўнікоў-ударнікаў абароны, якія здалі нормы на значок „Гатоў да працы і абароны“ (ГПА).

Максымальна скарыстаць застаўшыйся час да прызыву на павышэньне свае вайсковае падрыхтоўкі. Ня менш 30 процантаў прызыўнікоў перша-клясных стралкоў.

Стопроцантнае ўступленьне прызыўнікоў у рады Асоавіяхіму.

Прызыўнікі Менскага раёну бяруць на сябе абавязацельства—перанесьці вопыт сацыялістычнага спаборніцтва перадавых прадпрыемстваў і калгасаў у Чырвоную армію.

У сваёй адозьве да ўсіх прызыўнікоў 1910 году нараджэньня, да ўсёй пралетарскай грамадзкасьці БССР прызыўнікі Менскага раёну заклікаюць арганізаваць спаборніцтва на лепшае правядзеньне прызыва. Іх заклік павінен атрымаць жывыя водгукі ад пралетарскай грамадзкасьці і прызыўнікоў усіх раёнаў БССР.

Быць на варце клясавай бяздольнасьці новага папаўненьня радоў Чырвонай арміі, бязьлітасна вытручваць бюракратызм і бяздушныя адносіны да лістоў і скаргаў чырвонаармейцаў і іх сем'яў. Мабілізаваць мільённыя масы працоўных на ўмацаваньне абароны краіны, на выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных задач партыі і ўраду на выкананьне прамфінпляну і пасьпяховае правядзеньне ўборкі ўраджаю бяз страт! Пад такімі лёзунгамі павінна праходзіць падрыхтоўчая работа і прызыў у РСЧА.

„Наша армія моцна веданьнем сваіх клясавых задач. Армія, якая знае, за што яна змагаецца—непераможная“ (Сталін). **В. Ф.**



Другая прапалка капусты ў калгасе „Чырвоны гароднік“ пад Менскам.

## Прызыў—справа ўсёй пралетарскай грамадзкасьці! Канкрэтнымі справамі адказаць на заклік Менскіх прызыўнікоў!

# Першыя на чырвонай дошцы

На „экспрэсе“ Менск-Слуцак вы едзеце дваццаць гадзін.. Потым—тры кілёмэтры шляхавай дарогі і перад вачыма прыгожая шыльда:

**СТФ калгасу „1-е мая“**

Новы вялікі будынак. Поплеч сад. Гэта—былы маёнтак памешчыка Саматыгі. Зараз там адна з лепшых СТФ у раёне. СТФ калгасу „1-е мая“ адна з больших у раёне. Яна налічвае ў сябе: сьвінаматак—95 шт., рамонтных—27 шт., ад'ёмышаў—12, парасят—134, усяго—268 шт.

Па ўкамплектаваньні СТФ ішла першая ў раёне. Пляны ўкамплектаваньня выкананы цалкам. Своячасова зроблена прывіўка, што захавала стада ад захворваньня. На фэрме разгорнута спаборніцтва і ўдарніцтва, заключана сацумова з МТФ на лепшую работу, ліквідавана абязьлічка, да кожнай сьвінаркі прымацавана пэўная колькасьць сьвіней, за якія яны адказваюць. Работнікі, якія працуюць на СТФ, замацавалі сябе на ўвесь 1932 г. на СТФ.

На СТФ разгорнута крытыка і самакрытыка, выдаецца спэцыяльная насьценгазэта „За сацыялістычную сьвінагадоўлю“, што дае магчымасьць выкрыць усе недахопы і ліквідаваць іх і наладзіць добра працу на сьвінарніку. Пры сьвінарніку ўтвор ан лікпункт, дзе сьвінаркі ліквідуюць сваю няпісьменнасьць.

Уся ўвага насьценгазэты і працаўнікоў, якія даглядаюць сьвіней—гэта барацьба за добры догляд, за стопроцантнае захаваньне маладняка.

У час веснавога апаросу былі ўтвораны начныя дзяжурствы з работнікаў сьвінарніка.

СТФ калгасу „1-е мая“ па здачы (продажы) таварнай прадукцыі дзяржаве ішла першая па раёне.

На СТФ маюцца лепшыя ўдарнікі змагары за сацыялістычную сьвінагадоўлю, як Гарбунова С.— даглядае 25 сьвінаматак, Цыганава В.—даглядае 2 кныры, 6 сьвінаматак, 27 рамонтных, 12 ад'ёмных і Брэўда Арон—лепшы працаўнік па падвозу кармоў на сьвінарнік.

За добрую пастаноўку работы на СТФ „1-е мая“ райкалгассаюз занёс на чырвоную дошку першую.

Ударнікам—змагарам за сацыялістычную сьвінагадоўлю СТФ калгасу „1-е мая“ трэба яшчэ больш упарта змагацца на фронце сьвінагадоўлі і за выкананьне конкурсу і заняцьце пяршынства ў конкурсе.

**Янка Кучур.**

# Адзін з лепшых

Сярод студэнтаў сэктару завочнага навучаньня інстытуту кармавых культур і Аграхэміі тав. Вараб'ёў можа стаць прыкладам, як сапраўды трэба змагацца за падрыхтоўку кадраў, у якіх мае вялікае запатрабаваньне краіна саветаў.

Хто такі тав. Вараб'ёў?

Тав. Вараб'ёў рабочы—ударнік швэйнай фабрыкі „Камінтэрн“ (Гомель), па спэцыяльнасьці—раменшчык. Яму ўжо 50 год, аднак ня гледзячы на свае гады і працу на вытворчасьці, тав. Вараб'ёў абганяе па вучобе сваіх таварышоў студэнтаў гэтага сэктару, шмат яго маладзейшых і менш занятых.

З 19-II—32 г. па 25-VII тав. Вараб'ёў пасьпеў прапрацаваць 4 заданьні па матэматыцы, 3 заданьні па палітэканоміі і 1 заданьне па батаніцы.

Якім чынам дасягае посьпехаў тав. Вараб'ёў?

Вось што піша сэктару тав. Вараб'ёў: „Кожны дзень я ўдзяляю 3 гадзіны для завочных заняткаў. Ня маючы дастатковай падрыхтоўкі ў галіне агульна-адукацыйных ведаў, мне часта прыходзіцца зьвяртацца за дапамогай да больш сьвядомых таварышоў, асабліва па матэматыцы. Аднак, гэта дапамога ня носіць сыстэматычнага характару“.

Як бачыце, ніякіх сакрэтаў у посьпехах няма. Есьць жаданьне вучыцца і рабочая загалка сыстэматычна працаваць.

Гэтага мала. Тав. Вараб'ёў вучыць і новым мэтадам працы. Даём яму самому слова. „Палажыўшы ў аснову сваёй работы, як вытворчай, так і грамадзкай—мэтады сацыялістычнага спаборніцтва, я жыва адгукнуўся на заклік завочнага сэктару і выклікаў на спаборніцтва аднаго з таварышоў—завочнікаў, прозьвішча якога мне раіў сэктар па пунктам ударных тэмпаў работы, як на вытворчасьці, так і ў галіне вучобы.

На жаль, на выклік т. Вараб'ёва яшчэ мала адгукнулася завочнікаў. Тав. Бортнік (саўгас Луцэўшчына), выкліканы Вараб'ёвым, ён да гэтага часу не адгукнуўся на заклік ні тав. Вараб'ёва, ні сэктару.

Трэба, каб тэмпы і мэтады тав. Вараб'ёва былі ўжыты і другімі завочнікамі ВНУ і тэхнікумаў і тады хутчэй будуць рэалізаваны задачы, пастаўленыя партыяй і ўрадам перад сыстэмай завочнай падрыхтоўкай кадраў наогул і кадраў у с. г. у прыватнасьці.

Загадчык сэктару завочнага навучаньня **Ляўкевіч.**



Баранаваньне азімых пасеваў у калгасе.

# Арганізуем выкарыстаньне торфа на ўгнаеньне палёў

Торфаваньне глебы зьяўляецца адным з асноўных аграмерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці. Торф, якога ў СССР налічваюцца вялікія запасы, з посьпехам можа замяніць гной. Таму выкарыстаньне торфа на ўгнаеньне павінна зьявіцца цэнтральнай задачай ў барацьбе за ўраджай і за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Застаўшыйся да зімы тэрмін патрэбна выкарыстаць для ліквідацыі прарыва ў загатоўцы торфа на ўгнаеньне. Кожны саўгас і калгас павінен справу загатоўкі торфа на ўгнаеньне арганізаваць і практыкаваць у сваёй рабоце.

Загатоўка простым спосабам торфу для подсьцілу робіцца наступным чынам. Выбіраецца для гэтага вучастак бліжэй да сядзібы, каб менш пашло працы на перавозку. Папярэдня тарфянае балота абсушваецца для прасушкі, прыблізна да 30 проц. вільготнасьці, бо сыры торф зімою замярзае і ўтвараюцца цьвёрдыя вялікія камы. Пасьля прасушкі торф складаецца ў кучы і затым перавозіцца да скотнага хлява, дзе ён захоўваецца пад прыстасавана павецьцю, або ў вялікіх кучах, якім надаецца форма нахіленай страхі. Такая загатоўка торфу робіцца вясною, улетку, на любым асушаным тарфяным балоце.

Лепшым матар'ялам для падсьцілу зьяўляецца сфагнавы слаба-расклаўшыйся торф, які ўпітвае значную колькасьць вадкіх выдзяленьняў жывёлы. Але, калі мэтаю ставіцца атрыманьне найбольшай колькасьці гною, дык можна ўжываць на падсьціл і торф нізінных балот. У апошнім выпадку нізінны торф накідаецца раўнамерна пад жывёлу і засьцілаецца саломаю, каб ня брудзілася яна. Прапушчаны праз скотны хлеў торф зьяўляецца каштоўным угнаеньнем і вывозіцца на поле пад тую ці іншую культуру з разьліку каля 360 цэн на га.

Прыгатаваньнем кампосту з торфу ставіцца задача перагнойваньня арганічнай матэрыі торфу, на якія ён багаты, і перавод пажыўных матэрыі яго ў даступны для расьлін стан. Для гэтага патрэбна паветра, адпаведная вільготнасьць, кіслотнасьць і спажыўныя матэрыі для жыцьцядзейнасьці бактэрый. Торф верхавога балота адзначаецца кіслотнасьцю, і таму трэба зьнішчыць гэту кіслотнасьць шляхам прыбаўкі да яго вапны і ў залежнасьці ад кіслотнасьці, у сярэднім на адну частку паветрана-сухой матэрыі торфу 20-50 кг вапны (2-5 проц.). Да яго дадаецца попел; рознае сьмецьце ды іншыя водкіды, якія маюцца ў калгасе ці саўгасе. Да кіслых торфаў прыбаўляецца пры кампаставаньні фасфарытавая мука, тады кіслоты торфу дзейнічаюць на фасфарытавую муку і пераводзяць фосфарную кіслату яе ў даступны для расьлін стан.

Пры кампаставаньні торфу з вапнаю, попелам, фасфарытавай мукою і рознымі водкідамі можна яшчэ прыбаўляць некалькі гною, або гароднай зямлі.

Практычна прыгатаваньне кампосту з торфу робіцца наступным чынам. Выбіраецца адпаведнае месца, дзе-небудзь каля будынку, альбо на полі, ачышчаецца і звозіцца торф, які складаецца ў двухсхільныя кучы, шырынёю каля 2-х мэтраў і вышынёю каля 1 мэтра. Даўжыня можа быць розная. Да торфу тут-жа прымешваецца пры закладцы кампосту попел, вапна ды інш. Так складзеную кучу час-ад-часу перамешваюць і паліваюць гноевай жыжкаю, памыямі, або нават і вадою. Калі ёсьць блізка гліна, дык надзвычай каштоўна дно кампостнай кучы высьцілаць глінаю, каб не дапусьціць вымываньня каштоўных матэрый.

З торфу прыгатоўваюцца і торфа-фэкальныя ўгнаеньні, якія складаюцца з торфу і чалавечых выдзяленьняў, шляхам засыпкі торфам прыбіральні з разьлікам, каб торф паглынаў усю жыжку. У пачатку карыстаньня прыбіральняй яна засыпаецца на 30—40 см тарфяным парашком, або раскрышаным торфам і потым торф падсьцілаецца па меры неабходнасьці. Чалавечыя выдзяленьні карысна прымешваць і пры падрыхтоўцы кампостаў у кампосную кучу.

Кампостваньне па Камароўскай балотнай станцыі (БССР) Усесаюзнага Навукова-Дасьледчага інстытуту дала станоўчыя вынікі.

Закладка тарфяных кампостаў на базе Балотнага Інстытута робіцца два разы на год: увесну—для ўжываньня кампостаў пад ярыну наступнага году і ўвосень—пад азімыя культуры таксама наступнага года.

Вызначаны вучастак пад закладку тарфяных кампостаў увясну выбіраецца з восені. Выбраны вучастак з восені ўзорваецца і засяваецца мешанкаю азімага жыта з азімаю вікаю (80 кгр жыта і 110 кгр азімай вікі на га). У маі месяцы гэта мешанка гатова на сена або на зялёны корм. Пасьля ўборкі ўраджаю мешанкі вучастак узорваецца на глыбіню 15—20 см. Узораны вучастак пакідаецца на 7—10 дзён для прасушкі, а потым барануецца дыскавай бараною і зноў пакідаецца для прасушкі. Пасьля прасыханьня торфу прыблізна да 50—60 проц. вільготнасьці, торф гатоў для загатоўкі кампосту. Тады павярховы слой торфу ссоўваюць коннымі лапатамі ў валы, якія робіцца на адлегласьці адзін ад другога на 10 мэтраў. Шырыня валоў адпавядае 2 мэтрам, вышыня—1 мэтру, а даўжыня можа быць розная. У час ссоўваньня торфа ў валы, да яго дадаецца гной, фосфарыт, попел і інш., а пасьля гэтага час-ад-часу кучу перамешваюць сталёвымі віламі, бо рыдлёўка дрэнна ўлазіць у кампост. У сьнежні або ў студзені, у вольны ад палявых работ час, кампост вывозіцца на поле пад тую ці іншыя яравую культуру, складаецца да вясны ў невялікія кучы раўнамерна на полі, а рана вясною раскідаецца і заворваецца.

Увосень кампосты закладаюцца на плошчы пасьля ўборкі раньняй бульбы, капусты ці віка-аўсянай мешанкі. Прыгатаваньне кампосту ўвосень і догляд за ім такія-ж як і пры прыгатаваньні вясною.

Догляд за кампоснымі кучамі складаецца з паліўкі і перамешваньня іх. Паліўка робіцца з мэтаю ўвільгатненьня кампосту, а перамешваньне—з мэтаю праветрываньня, бо пры перасыханьні, як і без паветра дрэнна ідуць, або зусім ня ідуць працэсы раскладу арганічнай матэрыі. Перамешваньне робіцца тады, калі куча зьлежыцца і дрэнна праходзіць у сярэдзіну яе паветра. Тэрмін перамешваньня лепш вызначаць практычна на месцы, бо зьлежваньне кампоснай кучы залежыць, як ад матар'ялу, з якога прырыхтоўваецца торф, так і ад іншых прычын. Паліўкі робіць у залежнасьці ад пагоды: у сухую пагоду часьцей, а ў сырую зусім не рабіць. Кампост гатоў тады, калі ўвесь ён будзе прадстаўляць аднастойную, цёмнага колеру, масу.

Багацьце кампоста па пажыўныя матэрыі залежыць ад хімічнага складу матар'ялаў, з якога ён прырыхтоўваецца. Тарфяныя кампосты багаты на азот і, калі да торфу пры прыгатаваньні кампосту дабаўляецца попел і фасфарыт, або іншыя матар'ялы, якія маюць калі і фосфар, дык тарфяны кампост будзе багаты і на гэтыя матэрыі. Такі кампост будзе набліжацца па свойму хэмічнаму складу да гною, або нават і будзе больш багаты на пажыўныя матэрыі, чым гной.

Кампост, у залежнасьці ад яго багацьця на пажыўныя матэрыі, уносіцца ад 325—400 **цнт на га.** Ён уносіцца, як гной, увосень і перад пасевам. Напрыклад, пад каноплі раіцца закладаць кампост з восені, а вясною ўносяцца мінэральныя ўгнаеньні. Торфафэкельных угнаеньняў уносіцца на 1 **га** ад 100—200 **цнт**, а пад гародніня культуры гэта доза можа быць павялічана ў паўтара разы.

Закладка кампостаў можа ўтварацца ў любы тэрмін, што дасьць магчымасьць разьмеркаваць рабочую сілу больш раўнамерна на працягу ўсяго году. Працэсы-ж раскладу арганічнай матэрыі адбываюцца найлепш у цёплы пэрыяд году.

Торф на ўгнаеньне можна ўжываць і пасьля аднаго праветрываньня. Для такога ўжываньня лепш падыходзіць добра-расклаўшыйся торф нізінных балот. Праветраны торф уносіцца загадзя да пасеву, або з восені, каб да пасеву ён мог некалькі падрыхтавацца ў глебе. Неправетраны, дзікі, як і верхавых балот слаба расклаўшыйся торф без папярэдняй падрыхтоўкі ўжываць не раіцца. Ад паветранага торфу ў першы год яго ўжываньня можа атрымацца, іншы раз нязначнае падвышэньне ўраджаю, але ў наступныя гады ён пакажа свой дадатны ўплыў на ўраджай.

На мінэральных пескавых і супескавых глебах, якія бедныя на арганічныя і пажыўныя матэрыі, торф—у сыстэме з іншымі мерапрыемствамі зьяўляецца каштоўным матар'ялам для атрыманьня высокіх і ўстойлівых ураджаяў. **П. Трус.**

# Райштаб прэміяваў лепшыя калгасы і саўгасы

(*Крупскі раён*)

Крупскі райштаб па кіраўніцтву райконкурса на лепшы саўгас, калгас, брыгаду і насьценгазэту прэміяваў лепшыя калгасы, саўгасы, насьценгазэты, якія па-бальшавіцку змагаліся за ўсе пункты выкананьня раённага конкурса. Калгас Перамога, Бобрскага сельсавету датэрмінова ўбраў 89 **га** сенажаці і скончыў праполку 28 **га** ільну, якую праводзілі 2 разы і 2 разы гародніны, за своечасовую ўборку бяз страт 100 **га** збожжавых культур.

Райштаб выдаў праўленьню калгасаў 200 руб. для прэміяваньня лепшых ударнікаў і ўдарніц. 50 рублёў грашыма атрымаў прэмію старшыня калгасу за правільную арганізацыю працы і канкрэтнае кіраўніцтва ходам уборачных работ.

Саўгас Халопенічы прэміяваны за своечасовую і поўную ўборку сенажаці, азімых, за пераключэньне на масавую ўборку яравых грашыма ў 200 рублёў. За добрую пастаноўку работы, мабілізацыю саўгасных мас на баявыя работы прэміяван рэдактар насьценгазэты тав. Сарокіна грашыма ў суме 50 р. За добрае і ўмелае кіраўніцтва саўгаснай вытворчасьцю, дырэктара саўгасу тав. **Кабановіча** прэміявалі ганаровай граматай ударніка.

Калгас Чырвоны Сьцяг, Слабодзкага сельсавету за скончэньне датэрмінова ўборкі сена і жыта, пераключэньня на ўборку яравых і падрыхтоўку да засеву азімых, выдалі ў распараджэньне праўленьня калгасу 200 руб. для прэміяваньня лепшых ударнікаў—змагароў за бальшавіцкія тэмпы і якасьць работы.

Калгас Чырвоны Пахар, Крупскага мессавету паказваў сапраўдна бальшавіцкія тэмпы работы ў завяршэньні ўборкі сена і жыта, пераключэньня на ўборку яравых і, асабліва, за своечасовае цярэбленьне ільну ў жоўтай сьпеласьці. Калгасу выдана прэмія ў 100 руб. для прэміяваньня лепшых ударнікаў.

Калгас Пралетарская Перамога, Грыцькаўскага сельсавету прэміяван за сапраўды бальшавіцкую згуртаванасьць і мабілізаванасьць усіх сіл калгасу на правядзеньне праполкі, уборкі сенажаці і збожжа-прэміяй у 200 руб.

Выдана пэрсанальная прэмія старшыні калгасу тав. Чорнаму Максіму ў 50 рублёў грашыма і кніжкай ударніка і 4 прэміі па 50 руб. лепшым брыгадзірам.

Калгас Чырвоны Герой, Крупскага сельсавету за пасьпяховую ўборку жыта 80 **га**, за скончэньне ўборкі ячменю ў 20 **га**, райштабам прэміяван у 100 рублёў.

Калгас імя Сталіна, Смардзінскага сельсавету за добрую ўборку сенажаці і ўборку азімых 60 **га**, пераключэньне на ўборку яравых культур, падрыхтоўку глебы да засеву азімых, за што прэміяван калгас у 200 рублёў грашыма. Старшыню калгаса тав. Сасу выдана прэмія ў суме 50 рублёў.

Калгас імя Калініна, Выдрыцкага сельсавету завяршыў уборку сена і азімых. Па сапраўднаму разгортвае барацьбу за поўнае выкананьне узятых абавязкаў у райконкурсе—выдалі прэмію ў 100 р.

Вышэйпералічаныя калгасы, якія прэміяваны райштабам, дабіліся посьпехаў на аснове разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, высоўваньнем сустрэчных плянаў да нормы выпрацоўкі і іх выкананьня, за скарочаныя тэрміны, за рашучую барацьбу са стратамі ў час уборкі ўраджаю. Усе калгасы Крупшчыны, раўняйцеся па прэміяваных калгасах, пашырайце іх вопыт.

**Янка Аляксёнак.**

# Як кіраваць складанай малатарняй

1. Усякая машына дае добрую работу, калі яна правільна сабрана, змантыравана і добра змазана. Таму належыць праверыць і змазаць усе працоўныя часткі малатарні перад работай.

Асабліва належыць праверыць правільнасьць пастаноўкі і нацяжэньня рамнёў, а таксама ўстаноўку і змазку падшыпнікаў.

2. Арганізуйце такую перадачу збожжа ад скірды да малатарні, пры якой забясьпечваецца бесьперапынная работа машынам, а страты пры перадачы скарачаюцца да мінімума.

3. Праверце балансіроўку барабана. Для гэтага трэба вал барабана пакласьці на два лезіва. Калі, паварочваючы барабан, яго можна паставіць у любое становішча, значыць ён збалансіраван. Калі пры павароце барабан сам зварочваецца ў першапачатковае становішча, то неабходна яго ўраўнаважыць падкладваньнем шайб пад гайкі зубоў барабана.

4. Праверце ўстаноўку барабана і падбарабана (дэкі). У штыфтовай малатарні зубы барабана праходзяць строга па сярэдзіне прамежкаў паміж зубамі дэкі. Адлегласьць паміж паверхняй барабана і паверхняй дэкі ў уваходзе збожжа павінна быць большай, чым адлегласьць у выхада збожжа з барабана.

Дэка не павінна быць пастаўлена з перахілам адносна барабана. Устаноўка дэкі залежыць ад якасьці абмалачваемага збожжа. Для пачатку работы можна рэкамандаваць устаноўку дэкі з зазорам пры ўваходзе каля 25 мм і ў выхадзе—10-14 мм. Затым яе неабходна ўдасканаліць у залежнасьці ад пасьпяховасьці работы.

Калі барабан вытварае абмалачваньне з застаўленьнем зерня ў коласе (недамалот), то належыць дэку наблізіць да барабана.

Калі наглядаецца драбленьне зерня, дэку неабходна адсунуць ад барабана.

У выпадку ж немагчымасьці атрыманьня поўнага абмалоту без драбленьня зерня неабходна зьмяніць падачу.



Уборка гуркоў у калгасе „Чырвоны гароднік“ пад Менскам

5. Падавайце збожжа ў барабан раўнамерна і бесьперапынна, інакш барабан пры ўсякіх установках будзе даваць дрэнную работу.

6. Колькасьць абаротаў барабана, якая рэкамэндуецца заводам данай малатарні, трэба захоўваць. Зьмяняць яе можна толькі ў невялікіх межах, інакш будзе мяняцца колькасьць абаротаў другіх рабочых органаў малатарні, а гэта дрэнна адбіваецца на рабоце машыны.

7. Калі ў выходзячай з саломатраса саломе заўважаецца нявымалачанае зерне, неабходна павялічыць час прабываньня вораха на саломатрасе. Гэта выконваецца адпаведнай устаноўкай затрымліваючых шчытоў. Шчыткі належыць паставіць паверх саломатраса, так, каб яны затрымлівалі вылятаючае з барабана вольнае зерне і ворах.

Калі немагчыма атрымаць поўнае аддзяленьне зерня, трэба паменшыць падачу збожжа ў барабан.

8. Ніжнюю веялку (першую ачыстку) неабходна адрэгуляваць на лепшую ачыстку, пры якой атрымліваецца найбольшае выдзяленьне мякіны бяз утрыманьня ў ёй зерня. Гэта дасягаецца падборам адпаведнага мякіннага рэшата, рэгуліроўкай сілы дуцьця і ўстаноўкай паваротнай перагародкі, пастаўленай на ходу мякіны. (У некаторых малатарнях можна рэгуляваць кірунак дуцьця).

Рэгуліроўка сілы дуцьця вытвараецца перастаноўкай заслонак, закрываючых вокны вэнтылятара. Зернавое і падсейнае рэшаты трэба паставіць такія, якія-б падыходзілі да абмалачваемага збожжа.

9. Пасьля прахода першай веялкі верня, паднятае элеватарам, можа быць пушчана або ў шасталку, або непасрэдна на другую веялку для дадатковай ачысткі.

Шасталку належыць устанавіць так, каб не атрымалася драбленьня зерня ў ёй. Канструкцыя насьцілак дапушчае, як рэгуліроўку ступені апрацоўкі зерня, так і выключэньне часткі яе з работы. Таму заўсёды магчыма выбраць належную ўстаноўку, якая не дае драбленьня зерня. Прапушчаць зерне праз шасталку трэба толькі ў тых выпадках, калі неабходна ад зерня адбіць авёс, ячмень і т. д. Таксама належыць прапускаць зерне, якое мае шмат прымясяй (камочкаў зямлі), шасталкі раздробяць іх, а другая веялка зможа іх адлучыць.

10. Рэгуліроўка работы другой ачысткі заключаецца ў падборы рашот, устаноўцы нахілу рашот і сілы дуцьця. Другая веялка павінна быць устаноўлена на гранічна-лепшую ачыстку, бяз схода зерня назад у першую веялку.

11. Пасьля другой ачысткі зерне паступае ў сартыравальны цыліндр. Цыліндр сартыруе зерне па яго разьмеру і можа быць розна ўстаноўлен. Устаноўка дасягаецца ссоўваньнем або рассоўваньнем драцяных кругоў яго пры дапамозе вінта. Выключаецца з работы сартыравальны цыліндр перастаноўкай адпаведнай засланкі.

# ШКЛЯНЫ КАЖУХ КАМУТАТАРА ДА ТРАКТАРА „ФАРДЗОН-ПУЦІЛАВЕЦ“

Да гэтага часу прымяняўся і зараз прымяняецца мэталічны кажух камутатара з фібравымі пракладкамі ўнутры кажуха.

1. Фібравая пракладка ня зусім добраякасная, пасьля 2-тыднёвай работы пачынае зношвацца, што дае перабоі ў рабоце трактара (у ролікавым камутатары), у спружынным камутатары ў працэсе работы ломяцца спружыны, што больш часта сустракаецца пры зваротным штуршку матора.



Камутатар трактара.

2. Нядоўгавечнасьць мэталічнага камутатара (3—4 месяцы) і адсутнасьць у дастатковай колькасьці запасных частак апошняга, часта прымушаюць на досыць працяжны час спыніць работу трактара.

Мэханікам Менскага Сьвінаводтрэста тав. Балевічам М. прапанована замяніць мэталічны кажух шкляным. Прастата вырабу шкляного кажуха дае магчымасьць на адным варштаце ў 24 гадзіны вырабіць да 9.000 штук кажухоў. Таннасьць матар'ялаў,—простае звычайнае шкло дае магчымасьць мець у дастатковай колькасьці запасных кажухоў.

Ролік камутатара пры шкляным кажусе замяняецца графітнай шчоткай. Пры паломцы кажуха апошнюю лёгка замяніць новым, скарыстаўшы ўсе астатнія часткі. Спроба даказала аб яго прыгоднасьці і добраякасьці.

Прыблізная каштоўнасьць камутатара са шкляным кажухом выражаецца:

| | Каштоўн. 1 кампл. | | Кольк. кампл. у год | Гадовая каштоўн. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | К. | | Руб. | К. |
| Кажух . . . . . . . . . | — | 30 | 2 | — | 60 |
| Сэгмэнт . . . . . . . . | — | 80 | 1 | — | 80 |
| Пракладкі . . . . . . . | — | 06 | 1 | — | 06 |
| Шчоткі . . . . . . . . | 3 | — | 1 | 3 | — |
| Графітн. вугалькі . . . . | — | 13 | 3 | — | 39 |
| Усяго . . . | 4 | 29 | — | 4 | 85 |

Камплект камутатара мэталічнага

| | | | |
|---|---|---|---|
| Камплект кумутатара бяз ролікаў . . | 5—50 | 3 | 16—50 |
| Ролік . . . . . . . . . . . . | 1—20 | 3 | 3—60 |
| Усяго . . | 6—70 | — | 20—10 |

Амаль у 5 раз таньней камутатар з шкляным кажухом за мэталічны. На адным трактары Ф. П. за адзін год ад кажуха мы эканомім 15 руб. 25 к.

Усё гаворыць за шкляны кажух камутатара і за тое, каб наладзіць масавую вытворчасьць шкляных кажухоў камутатараў у самы хутчэйшы тэрмін.

**Е. Голікаў.**

# Новая ільнатрапальная машына

Вынаходнікам калгасьнікам калгасу Сталінскі прызыў“, Мсьціслаўскага раёну т. Гарлачовым пабудавана новая ільнатрапальная машына, мадэль якой была прадстаўлена Беларускаму аддзяленьню інстытута мэханізацыі сельскай гаспадаркі. У той-жа дзень вытворчай нарадай спэцыялістаў інстытута, вынаходніцтва т. Гарлачова было разгледжана.

Канструкцыя машыны надзвычай простая, большасьць частак машыны з дрэва. Галоўнаю часткаю машыны зьяўляецца барана, альбо лепш сказаць 6 драўляных дыскаў—па 3 на кожнай палове барабана. Гэтыя дыскі сядзяць на валу, разам з якім яны круцяцца. Вал апіраецца на 3 падшыпнікі—2 па канцох вала і адзін на сярэдзіне. Падшыпнікі сядзяць на раме альбо станку, цалкам пабудаваным з дрэва. На адным канцы вала побач з падшыпнікам умацавана шасьцёрка (14 зубоў), якая знаходзіцца ў зачапленьні з большай шасьцёркай (74 зубы). Вялікая шасьцёрка сядзіць на асобным валу і атрымоўвае рух ад прыводу.

На акружыне барабана прымацоўваюцца шурупамі дошкі з цьвёрдага дрэва. Пад імі знаходзіцца рад такіх-жа трапашак, якія пастаўлены некалькі наперадзе. Рабочыя захоўваюцца ад пылу драўляным кожухам, на край якога кладзецца лён. Лён абтропваецца трапашкамі барабана.

Барабан робіць прыблізна 250 абаротаў у хвіліну. На прыводзе працуе адзін конь, які лёгка прыводзіць машыну ў рух. Каля ільнатрапалкі працуе 8 чал., вытворчасьць якіх падвышаецца ў 2 разы ў параўнаньні з ручной работай.

Пры вырабе машын неабходна скарыстаць вопыт т. Гарлачова, які яшчэ зможа даць каштоўныя вынаходніцтвы сацыялістычнай гаспадарцы.

**Афонскі.**



# Сацыялістычная стандартызацыя бульбы

Сацыялістычная стандартызацыя ў прамысловасьці садзейнічае павялічэньню прадукцыйнасьці працы і зьніжэньню сабекошту гатовае прадукцыі. Стандартызацыя цалкам можа быць дапасавана і да сельскае гаспадаркі.

Наколькі вялікае значэньне мае ўстанаўленьне цьвёрдых стандартаў на сельскагаспадарчыя прадукты ў БССР, прывядзем некалькі прыкладаў па культуры сталовае і заводзкае бульбы.

Сталовыя гатункі бульбы павінны мець такія асаблівасьці: бульбінны сярэдняй велічыні, з няглыбокімі вочкамі, пры варцы хутка развараваца, але не рассыпацца. Смак добры, бяз паху і прыўкусу. Пры рэзцы бульбіны не чарнеюць. Пры захаваньні яна дае малыя страты. Крухмалістасьць вышэй сярэдняй.

Меркаваць аб тым, наколькі ў БССР спажываюць чыстагатунковую, а значыцца стандартную бульбу з-за адсутнасьці матар'ялаў зусім немагчыма.

Праўда, укосна характарызаваць становішча ў нас можна на падставе дасьледчых матар'ялаў па г. Маскве, куды завозіцца бульба з БССР. Навукова-дасьледчым інстытутам бульбянае гаспадаркі быў зроблен аналіз бульбы, завезенай ў Маскву ў 1929 г. Высьветлілася, што сталовых гатункаў была прывезена—24 проц., універсальных—17,3 проц., кармовых—20 проц. і іншых—38,7 проц.

Вялікае значэньне мае пры вызначэньні стандартаў форма бульбіны і яе якасьць. Стандартнымі могуць быць толькі круглыя, здаровыя бульбіны. Каб уявіць, на колькі стратна сталовая бульба не стандартнае формы і нездаровая, даволі прывесьці такі факт: Маскоўская ўзорная фабрыка-кухня № 3 чысьціць бульбу машынным спосабам. Пры чыстцы—адыходаў бывае 47 проц., г. зн. амаль палова бульбы не пападае ў харч рабочаму. У БССР сёлета было закантрактавана 182 тыс. тон сталовае бульбы. Калі дапусьціць, што ўвесь запраектаваны ўраджай бульбы будзе ачышчаны машынным спосабам, дык пры цане 36 руб. за тонну, страты па ачыстцы-б без скарыстаньня адыходаў, дадуць 30 млн 758 тыс. рублёў. Зразумела, што сацыялістычная гаспадарка, ставячы прад сабою задачу ў найкарацейшы тэрмін цалкам ахапіць грамадзкае харчаваньне, ня можа несьці такія страты. Адсюль выхад—устанаўленьне цьвёрдых стандартаў на форму бульбін, а іменна: круглая ня менш як 6 сантымэтраў у дыямэтры. Бульбін меншага памеру дапускаецца ня звыш 2 проц.

Пры вызначэньні стандартаў сталовае бульбы вялікую ролю адыгрывае яе крухмалістасьць. Так, па матар'ялах дасьледчых станцый БССР гатунак Эпікуру на мінэральных глебах мае крухмалістасьць ад 14,6 проц. да 15,8 проц. Раньняя ружа ад 13,1 проц. да 17,2 проц. Смыслоўскі ад 14,5 да 18,2 проц. Парнасія ад 12,8 проц. да 22,1 проц. Па нашай думцы пры выбары стандартных гатункаў, абавязкова трэба вызначаць проценты крухмалістасьці. Каб больш відавочна ўявіць важнасьць процанта крухмалістасьці, зробім такія разьлікі. Дапускаючы, што сярэдняя крухмалістасьць ад сталовае бульбы—291 мільён 200 тыс. тон крухмалу. Павялічэньне крухмалістасьці з 16 да 18 проц. дае магчымасьць атрымаць лішніх 36 млн. 400 тон крухмалу, або 7 млн. 280 тыс. рублёў.

Як вядома ў БССР найбольш пашыраны заводзкі гатунак Вольтман. Пры добрых ураджаях крухмалістасьць яго дасягае да 24 проц. супроць сярэдняй у 18 проц., што дае ажыцьцяўленьне стандарта Вольтман крухмалістасьцю ў 22 проц.

Крухмальная прамысловасьць сёлета мяркуе перапрацаваць 126.500 тон бульбы. Пераход па перапрацоўцы бульбы з павышанай крухмалістасьцю, г. зн. 22 проц. супроць 18 проц., выклікае экономію сыравіны 22 проц. або 27.330 тон, ці 1.001.880 руб.

Адным словам, пры ўстанаўленьні цьвёрдых стандартаў на крухмалістасьць тэхнічнае бульбы ў 22 проц., магчыма эканомія па бульбаапрацоўчай прамысловасьці толькі ў 1931 г. 2.800 тыс. рублёў.

Відавочна цяпер, што ўстанаўленьне цьвёрдых стандартаў на адну толькі бульбу сталовую і тэхнічную ў БССР дае экономію ў мільёны рублёў.

Задачай бліжэйшага часу зьяўляецца дэталёвая прапрацоўка стандартаў на бульбу і на прадукты сельскае гаспадаркі, як апарацыйнымі, гаспадарчымі, так і навукова-дасьледчымі ўстановамі.

Я-ч.



Бульбакапалка, зроблена на Віцебскім заводзе „Чырвоны мэталіст".

# Больш увагі тэхнічнаму нормiраваньню

XVII Усесаюзная партыйная канфэрэнцыя надала вельмі вялікае значэньне тэхнічнаму нормiраваньню. „У аснову правільнай арганізацыі працы і ўнутрызавадзкога плянаваньня павінна быць пакладзена тэхнічнае нормiраваньне. Павінен быць зроблен рашучы паварот тварам да тэхнічнага нормiраваньня, бо наладжанае па сапраўднаму тэхнічнае нормiраваньне забясьпечвае падняцьце вытворчасьці працы на належную вышыню“ (з пастановы XVII партыйнай канфэрэнцыі).

Для падняцьця вытворчасьці працы патрэбна арганізаваць рабочы час такім чынам, каб вытворчасьць працы была паднята на вышэйшую ступень. І калі гэта будзе зроблена, то будзе забясьпечана максымальная эфэктыўнасьць адных і тых-жа сродкаў вытворчасьці, дзякуючы правільнаму і поўнаму скарыстаньню апошніх.

Таму, патрэбна сур'ёзна заняцца, на справе, а не на словах, не рэзалюцыямі, тэхнічным нормiраваньнем, бо задачы падвышэньня вытворчасьці працы патрабуюць сканцэнтраваньня выключнай увагі на складаньні норм шляхам тэхнічнага нормiраваньня, а не на „главок“, правядзеньні ў жыцьцё рацыяналізатарскіх прапаноў, сыстэматычным вывучэньні і зьнішчэньні ўсіх прычын, якія тармазяць рост вытворчасьці працы.

Справай тэхнічнага нормiраваньня ў шмат якіх саўгасах не займаюцца, у той час, калі ўсім добра вядома, як зачастую не скарыстоўваецца рацыянальна працоўная сіла. Прыкладам гэтага служаць саўгасы „Віленъ“, „Вішнеўка“ і іншыя. дзе тэхнічнаму нормiраваньню не надаюць таго значэньня, якое яно фактычна павінна заняць у справе правільнай расстаноўкі і скарыстаньні рабочай сілы. У выніку гэтага мы маем няпоўнае скарыстаньне рабочага дню: прастоі пры жніве жыта дасягаюць да 38,1 проц. працоўнага дню, па акучваньні бульбы 35,9 проц., пры касьбе касілкай 44,2 проц. Між тым гэтыя прастоі, шляхам правільнага наладжваньня працы і ўвядзеньня зьдзельшчыны, на базе тэхнічнага нормiраваньня, магчыма давесьці да мінімума.

Для гэтага патрэбна дэталёвае вывучэньне рабочага часу, якое магчыма правесьці шляхам фатаграфіі рабочага дню і хронамэтражу, якія ставяць сваёй мэтай: 1) фіксацыю (назіраньне і замер часу), 2) аналіз (апрацоўка дадзеных назіраньняў), 3) сынтэз (праектыроўка).

Фатаграфіяй рабочага часу вывучаецца работа аднаго работніка, цэлай групы, а таксама брыгады на працягу поўнага рабочага дню, або зьмены. Для гэтага фіксуюцца пасьлядоўна ўсе работы: пачатак і канец, іх падрыхтоўчыя і заключныя работы, усе перапынкі, як устаноўленыя, так і неўстаноўленыя, прастоі машын, выпадковыя работы і г. д. У канцы рабочага дню праводзіцца дэталёвае вымяраньне фактычнай выпрацоўкі за пэрыяд нагляданьняў.

Рабочы, якога патрэбна ўзяць для нагляданьня, павінен быць прыкладным, добрасумленным, працаваць ударна, выконваць і перавыконваць плянавае заданьне. У выніку вывучэньня работы ўдарніка і ўдарных брыгад, улічваючы рост сацыялістычных мэтадаў працы, тэхнічнай узброенасьці сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, праектуецца лепшая арганізацыя працы, больш вытворчыя тэхнічна-магчымыя нормы выпрацоўкі, якія павінны быць ажыцьцёўлены ў тым саўгасе, або калгасе, дзе вывучаецца даная праца.

З нормiраваньнем па старым даведнікам, патрэбна пакончыць, бо яны ўжо ўстарэлі, у іх узят курс на „сярэдняга рабочага“, яны асnованы на старых мэтадах арганізацыі працы. Сацыялістычныя мэтады працы, новыя формы аплаты працы, дасягненьне тэхнікі ў іх ня ўлічваюцца.

Увядзеньне гаспадарчага разьліку, на аснове сапраўднай зьдзельшчыны, немагчыма бяз тэхнічнага нормiраваньня.

XVII партыйная канфэрэнцыя зазначае, што „саўгасы павінны пашырыць сваю вытворчасьць па ўсім галінам, у тым ліку па лініі тэхнічных культур і жывёлагадоўлі і ўзмацніць сваю ролю ўзораў сацыялістычнай арганізацыі вытворчасьці і прымяненьня да сельскай гаспадаркі высокай машыннай тэхнікі“. Аднак, у саўгасах не надаюць яшчэ таго значэньня тэхнічнаму нормiраваньню, якое надала яму XVII партыйная канфэрэнцыя. Шмат у якіх саўгасах справай тэхнічнага нормiраваньня зусім ігнаруюць.

Пытаньне аб кадрах па тэхнічнаму нормiраваньню зьяўляецца аднэй з цэнтральных задач па рэалізацыі пастаноў партыі і ўраду аб тэхнічным нормiраваньні. XVII партыйная канфэрэнцыя ўказала, што „неабходна асабліва зьвярнуць увагу на перападрыхтоўку кадраў па тэхнічнаму нормiраваньню!“

Побач з пытаньнем аб падрыхтоўцы кадраў трэба рацыянальна скарыстаць маючыя кадры. Трэба стварыць для іх спрыяючыя ўмовы для працы. Ствараць курсы і спэцыяльныя аддзяленьні пры вышэйшых і сярэдніх навучальных установах па падрыхтоўцы спэцыялістаў па тэхнічнаму нормiраваньню.

Трэба разгарнуць навукова-дасьледчую працу па тэхнічнаму нормiраваньню. Мы павінны прыпаднесьці нізавому работніку па тэхнічнаму нормiраваньню мэтадалёгію, мэтодыку і тэхніку нормiраваньня.

Толькі ажыцьцяўленьнем 6 умоў т. Сталіна, шырокім разгортваньнем сацспаборніцтва і ўдарніцтва, унядрэньнем у вытворчасьць навуковых мэтадаў тэхнічнага нормiраваньня,—мы забясьпечым выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну.

**М. Старобінец.**



Зяблевая ўспашка ў саўгасе імя Лекерта.

# Да разьвіцьця трусагадоўлі ў калгасах і саўгасах ёсьць поўныя магчымасьці

У радзе саўгасаў і калгасаў шкодныя адносіны да труса.—„Што гэта за жывёла? Ня дзіч і не хатняя скаціна. Ні то заяц, ні то кот. І мяса яго! Што гэта за мяса?“

Між тым, у такіх краінах як Францыя і, асабліва, Бэльгія ў харчаваньні насельніцтва трус займае першае месца. Самыя лепшыя і самыя смачныя харчы там прыгатаўляюцца з трусавога мяса. І гэта зусім зразумела. Мяса труса белае, як курынае, смачнае і вельмі карыснае. У гэтых-жа краінах



дыэтычныя харчы прыгатаўляюць для малакроўных хворых з труса. Бо ніводнае мяса жывёліны, якое спажываецца для яды людзьмі, ня ўтрымлівае столькі бялкоў, колькі мяса труса.

З другогэ пункту гледжаньня—труса карысна гадаваць яшчэ і таму, што ён вельмі шмат прыносіць карысьці нашай прамысловасьці. Возьмем, напрыклад, яго шкурку. З шкуркі труса выходзяць, пры вядомай апрацоўцы, вельмі добрыя і, адначасна, зусім танныя мяхі. Пух труса такоама мае вялікае значэньне. Самыя цёплыя, мяккія і лёгкія па вазе рэчы, як панчохі, вязаныя розныя сарочкі (джэмперы), капялюшы, боцікі выходзяць з пуха труса.

Адначасна трус вельмі хутка плодзіцца, добра і хутка пасьпявае і зусім не патрабавальны ў сэнсе падбору харчоў. Адна трусаматка прыносіць у год больш 30 штук трусянят. Калі прыняць пад увагу, што самкі труса ўжо праз тры прыблізна месяцы становяцца здольнымі да акоту, дык гэтая лічба павялічыцца прыблізна да двох сот у адзін год.

Выходзячы з гэтых станоўчых бакоў у трусагадоўлі ЦК УсеКП(б) і падкрэсьліла сваёй пастановай ад 8 мая 1932 году аб разьвіцьці трусагадоўлі ў Ленінградзкай і Іванава Вазьнясенскай абласьцях. Апрача таго, гэтай жа пастановай ЦУ УсеКП(б) дала дырэктыву давесьці пагалоўе трусоў па Маскве і Маскоўскай вобласьці да канца 1932 г.—360 тысяч штук. Па Ленінграду і Ленінградзкай вобласьці давесьці да канца 1932 г. пагалоўе трусоў 2.200.000 шт. Па Івана-Вазьнясенскай вобласьці да канца 1932 г. пагалоўе трусоў да 115.000 шт. Гэтая пастанова гаворыць за тое, якое вялікае значэньне надаецца зараз партыяй разьвіцьцю трусагадоўлі. Вядома, што заняцца трусагадоўляй павінны ня толькі паказаныя ў пастанове мясцовасьці, але і ўвесь саюз, усе саюзныя рэспублікі, усе саўгасы, калгасы, калгасьнікі і іншыя ўстановы і арганізацыі.

Між тым, на практыцы мы маем яўную недаацэнку гэтай работы, яўныя апартуністычныя адносіны да справы трусагадоўлі.

— Што там трусагадоўля! Сьвіней лепш гадаваць будзем.—І ёсьць такія людзі, якія ўсякім чынам хочуць зацісну́ць труса, хочуць зацісну́ць трусагадоўлю. Наш карэспандэнт заметкай, якая друкуецца ў гэтым-жа нумары, даводзіць, што райкалгассаюз Полаччыны ня хоча займацца трусагадоўляй. Вядома, ад каго-б ня выходзілі такія разважаньні, такія „тэорыйкі“ па поваду трусагадоўлі, мы ведаем, што яны нараджаюцца ў нашага клясавага ворага.

Клясавы вораг, бачачы нашы часовыя цяжкасьці ў сэнсе задавальненьня працоўнага насельніцтва мяснымі прадуктамі, хіхікае з-за вугла, выдумвае розныя „тэорыйкі“ і забруджвае галовы некаторых мяккацелых ныцікаў, каб сарваць такое карыснае і важнае мерапрыемства, як разьвіцьцё трусагадоўлі.

Трусагадоўля ўзмоцніць харчовыя рэсурсы краіны. Трусагадоўлі палепшыць дабрабыт працоўных. Трусагадоўля дасьць вельмі смачнае і спажыўнае мяса, пры чым мяса, якое, як гэта было ўжо сказана, хутка сьпее і не патрабуе вялікіх клапотаў і затрат. Вось чаму працоўныя масы савецкага саюзу, ня ў прыклад полацкім апартуністам, адгукнуліся на пастанову ЦК УсеКП(б) ад 8 мая 1932 г. і шырока разгортваюць трусагадоўлю на сваіх фабрыках, заводах пры сваіх сталоўках і жактах. Вось чаму каапэрацыйныя сыстэмы, як паляўнічая каапэрацыя, дзяржаўныя арганізацыі, як Белпушніна, Белсельтрэст шчыра ўзяліся за разьвіцьцё трусагадоўлі, а значыць і за палепшаньне харчаваньня працоўных. Яны ўзяліся за вырашэньне гэтай справы канкрэтна, бяз усякіх разгавораў, лішніх слоў і шкодных „тэорыек“ аб некарыснасьці трусагадоўлі і ўжо маюць вялізарныя посьпехі.

Раней трусоў гадавалі амаль выключна ў асобных для кожнай трусаматкі, клетках. Зараз прынята новая сыстэма, так званая гарэнная ў гадоўлі трусоў. Гэтая сыстэма прызнана самай карыснай і самай таннай. Трус у ёй адчувае сябе вальней, становіцца больш вясёлым, не такім вымучаным, як у клетцы. Гарэна—гэта вучастак зямлі, абведзены плотам, які ўкапваецца ў зямлю, каб трус ня вылез праз шчыліны і не падкапаўся. Гэты



вучастак часта перабіваецца яшчэ на адно ці некалькі аддзяленьняў, каб можна было адлучаць захварэўшых трусоў і маладняк. Вядома над гэтым вучасткам трэба паставіць навес, хаця трус зусім не баіцца ні халадоў, ні асаблівых сьпёк. Большай часткай ён жыве ў нары, якую выкапвае на гэтым вучастку. Баіцца трус толькі скразных ветроў, ад якіх ён часта хварэе вельмі заразьлівай хваробай, так званым „акцыдзіозам“.

Вядома, як і для ўсякай жывёлы, для трусоў патрэбны кармы. Рацыён кармоў раскладаецца для кожнага труса ў суткі такім чынам: грубых кармоў сена—100 **гр**, аўса—50—70 **гр** і кораньплодаў 100—200 **гр.** Грубыя кармы можна загатаўляць з сарнякоў, лісьця дрэў і інш. Палын і той ядуць трусы. Лісьце і гальлё ўсіх дрэў ідуць у харчы трусоў, за выключэньнем так званых костачкавых (вішні, сьлівы, чарэшні). Асіна, бяроза, альха, асабліва лаза, найлепшыя грубыя кармы для трусоў. Апрача таго, неабходна мець у запасе лісьце і гальлё дуба. Дубовыя расьліны маюць у сабе так званы танін, які служыць скрапляючым сродкам для страўніка. Ужываньне гэтай расьліны пры паносах неабходна, але трэба ўхіляцца вялікіх колькасьцяй, каб ня выклікаць запор.

Гальлё і лісьцё дрэў павінна загатаўляцца на зіму наступным чынам. Зразаюцца акоткі і вяжуцца ў венікі. Венікі сушацца, але толькі не на сонцы, а абавязкова ў халадку, каб лісты не перасохлі і не ламаліся.

Па пляну разьвіцьця трусагадоўлі ў калгасах БССР да 1932 году павінна быць арганізавана 240 трусаводных фэрм з 60 тыс. галоў трусоў. Мы павінны паставіць так справу, каб гэты плян быў ня толькі выканан, але і перавыканан. Усе магчымасьці для гэтага ў кожным калгасе ёсьць. Ёсьць гальлё і лісьцё дрэў; ёсьць кораньплоды, якія сплош і радам калгасам не выкарыстоўваюцца, выкідаюцца вон; ёсьць і зямля, дзе можна знайсьці вучастак для гарэны (трэба ўхіляцца блізасьці сырых месц пры гэтым, балот); ёсьць і дрвы, з якіх можна зрабіць плот і навес для гарэн.

Але разьвіваць трусагадоўлю ў калгасах трэба ня толькі так, як гэта паказана ў пляне, пра арганізацыю фэрм, а каб кожны калгас, нават асобны калгасьнік заняўся гэтай вельмі карыснай, цікавай і прыбытковай справай. А дасягнуць гэтага мы зможам толькі тады, калі разаб'ем і адкінем усякія шкодныя „творыйкі“ аб некарыснасьці трусагадоўлі.

**М. Ц.**

# Полацкі райкалгассаюз зрывае трусагадоўлю

Разьвіцьцё трусагадоўлі мае надзвычайна вялікае значэньне ў сэнсе вырашэньня мясной праблемы і наогул у разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Паводле пляну ў калгасах Полаччыны павінны быць арганізаваны 16 трусагадоўчых фэрмаў з 4.000 трусамі. Райкалгассаюз ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні райкому партыі да гэтага часу нічога канкрэтнага ў галіне разьвіцьця трусагадоўлі не зрабіў.

Існуючымі трусагадоўчымі фэрмамі райкалгассаюз ня цікавіцца. Так, напрыклад, у калгасе „Іскра“ Гомельскага сельсавату маецца трусагадоўчая фэрма з колькасьцю 215 трусоў, але з прычыны дрэнных умоў і дрэннага догляду фэрма дае зусім нязначны прыплод.

Фэрмы ў калгасах Сосьніцкага сельсавету, знаходзяцца ў такім-жа становішчы.

Райкалгассаюз абмежаваўся тым, што заключыў дагавор з 11 калгасамі на арганізацыю трусаводных фэрм, але дагаворы гэтыя засталіся на паперы. Нічога практычнага ня робіцца. Фэрмы яшчэ і зараз не ўкамплектаваны.

Рэзультатам безадказных адносін райкалгассаюза да разьвіцьця трусаводзтва зьяўляецца і тое, што дагэтуль не выкарыстоўваецца племянны рассаднік трусагадоўлі пры Полацкім саюзе паляўнічых для ўкамплектаваньня калгасных трусаводных фэрм. Зрыву трусагадоўлі спрыяе адсутнасьць масавай растлумачальнай работы сярод калгасьнікаў аб значэньні разгортваньня трусаводных гаспадарак, таму ў некаторых калгасах маюць месца апартуністычныя разважаньні пра значэньне трусагадоўлі.

Праўленьне калгасу „Герой працы“ Юравіцкага сельсавету разам са старшынёй Анушкіным разважае:

— „Мы трусаводзтвам зоймемся ў другой пяцігодцы, бо нашы рэсурсы не дазваляюць зараз распачынаць гэту справу“.

Праўленьне калгасу „Чырвоная Дуброва“, Салоніцкага сельсавету катэгарычна адмовілася ад разьвіцьця трусагадоўлі, заявіўшы:

— „Трусы карысьці не даюць, нам трэба малако, а ня трусы“!?

Гэтым выбрыкам клясавага ворагу трэба даць належны адпор.

У далейшым такога становішча ня можа быць. Райкалгассаюз навінен перабудавацца на хаду: паставіць работу так, каб кантрольная лічба па разьвіцьці трусагадоўлі ў калгасах раёну была выканана поўнасьцю.

**Мікола Камунны.**

---

**Адказныя рэдактар С. МІЦЬКОЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2092. 2.300 экз. Уп. Галоўлітбелу № а—2.

